Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
30 снежня 2016 года №53 (1131)




# Мы можам зрабіць будучыню лепшай

Стрэлкі гадзінніка адлічваюць апошнія хвіліны 2016 года. Кожнаму ён нешта прынёс. Добрае ці благое, вясёлае ці сумнае. Такое жыццё.

І калі мы не ў сілах паправіць, зрабіць лепшым сваё мінулае, то будучыня пакуль яшчэ у многім залежыць і ад нас.

Правёўшы стары год, у новым, 2017, у нас ёсць усе шанцы зрабіць яго лепшым за папярэдні.

Галоўнае, каб у нас быў настрой на жыццё, на тое, каб рабіць добрае не толькі сабе і сваім блізкім, але і суседу, з якім вітаецеся толькі кіўком галавы, выпадковаму чалавеку, з якім стаіце ў чарзе да касы ў краме, спадарожніку ў аўтобусе…

Проста ўсміхніцеся сустрэчнаму, падайце руку старому і нямогламу, першым папрасіце прабачэння за нялоўкі штуршок у людным месцы…

Паведамляйце газеце пра тое, як мяняемся мы і мы змяняем свет, дзяліцеся з чытачамі радасцямі і дасягненнямі. А калі трэба знайсці параду ці падтрымку, таксама звяртайцеся ў рэдакцыю.

Мы ніколі не адасаблялі сябе ад вас, нашы чытачы. Бо жывём побач з вамі, і вашы праблемы, радасці і клопаты – гэта і нашы праблемы, радасці і клопаты.

З надыходзячым Новым 2017 годам! І да новых сустрэч.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ,**
**галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты".**

# Віншаванне Снягурачкі "РГ": *"Хай сімвал Новага года памнажае лік шчаслівых імгненняў"*

*Дарагія сябры! Надыходзіць Новы год – час новых надзей, поспехаў і перамог. Якім будзе наступны 2017 год, залежыць ад кожнага з нас. Таму, перш за ўсё, хачу пажадаць вам усім веры ў сябе і свае сілы, вялікіх здзяйсненняў, адкрыццяў і надзей. Мы іх абавязкова ўвасобім ў жыццё!*

*Хай сімвал Новага года толькі памнажае лік шчаслівых імгненняў, побач будуць дарагія вам людзі, а цяпло сямейнага ачага прыцягне жаданых гасцей. Падбадзёрце стомленых, усміхніцеся тым, хто адзінокі, жыццё сто разоў аддзячыць за ваш клопат. Прыміце сардэчныя пажаданні здароўя, дабрабыту, шчасця і працвітання! Добрага настрою і вясёлых навагодніх святаў! З надыходзячым Новым годам і Калядамі!*

*Для мяне адыходзячы год прынёс радасныя перамены, споўнілася шмат планаў і доўгачаканых жаданняў. Год быў багаты на розныя падзеі, але самай галоўнай і запамінальнай было стварэнне сям'і. Я вельмі шчаслівая.*

*Люблю жыццё, бо побач мае самыя дарагія і любімыя людзі. Мае родныя, самыя любыя, віншую вас з надыходзячым Новым годам! Жадаю вам бязмежнага душэўнага цяпла, радасці і дабрыні, дабрабыту і шчасця. Хачу радаваць вас з дня ў дзень! Вы маё натхненне і стымул. Здароўя вам, родныя, дастатку і веры ў цуды. Вельмі ўсіх люблю і цалую. Вясёлых і добрых святаў.*

**Марына СІЛЬВЯСТРОВІЧ.**

# З НОВЫМ ГОДАМ!

Маладзечанка Марына Сільвястровіч – Снягурка "Рэгіянальнай газеты"

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

## Гараскоп: якім будзе год Пеўня?

старонка 21

## Што прыносіў нам год Пеўня ў розныя гады

старонка 6

## Вучні з Вілейкі перамаглі ў рэспубліканскім конкурсе "Паэтычны ветразь"

ВІЛЕЙКА

Вучняў гімназіі "Логас" **Артура Броўку** і **Дыяну Гіль** запрасілі ў Вялікую студыю Дома радыё ў Мінску на фінал рэспубліканскага радыёконкурсу юных чытальнікаў "Паэтычны ветразь-2".

Яшчэ ў лістападзе дзевяць вучняў "Логаса" ўдзельнічалі ў першым этапе конкурсу юных чытальнікаў, прымеркаванага да Года культуры і 15-годдзя радыёканала "Культура".

Удзельнікам трэба было прачытаць на памяць у студыі вершы Максіма Багдановіча і Кандрата Крапівы. Менавіта Артура і Дыяну абрала ў фінал журы канала "Культура" і праграмы "Мэры Попінс".

У другім этапе конкурсу вершы чыталі 15 фіналістаў у малодшай групе і 15 – у старэйшай. Дыяна чытала байку Максіма Багдановіча "Варона і чыж", а Артур – верш "Летапісец".

Вілейскія вучні прывезлі дадому дыпломы другой ступені і прызы.

Пра гэта расказала настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі "Логас" **Аксана Максімовіч.**

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота забяспечанае Аксанай МАКСІМОВІЧ.

Дыяна Гіль і Артур Броўка ў Доме радыё.

## Юбілейнае шэсце Дзядоў Марозаў адбылося ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

32 пары Дзядоў Марозаў са Снягуркамі і світай прайшлі па перадсвяточнай цэнтральнай плошчы Вілейкі.

Паўдзельнічаць у парадзе маглі ўсе жыхары і госці горада і раёна. Галоўная ўмова – наяўнасць касцюма галоўных святочных герояў або касцюмаў з казачных персанажаў. Былі навагоднія пары з арганізацый і прадпрыемстваў Вілейкі, школ, дзіцячых садкоў, сельскіх клубаў.

Святочны парад рушыў ад гарадскога Дома культуры вакол цэнтральнай плошчы і прыпыніўся ля галоўнай сцэны свята. Тут зладзілі канцэрт, працавалі разнастайныя пляцоўкі, адбываліся гульні.

Сярод Дзядоў Марозаў арганізатары ладзілі разнастайныя конкурсы. Дзядулі спявалі прыпеўкі, выконвалі навагоднія песні ў стылі рэп, спаборнічалі ў армрэслінгу, гулялі ў хакей і футбол, крэатыўна віншавалі ўсіх з надыходзячымі святамі. Падарункі атрымала кожная пара.

А тыя героі, якія найбольш запомніліся і арганізатарам, і гледачам, атрымалі спецыяльныя дыпломы. Адзначылі самага галасістага, самага моцнага і самага рэпавага Дзядоў Марозаў. Не забыліся і пра самую юную ўнучку. У гэтай намінацыі дыплом атрымала сямігадовая Снягурачка.

Дыплом за адданасць традыцыям уручылі Дзеду Марозу з завода "Зеніт". Ён удзельнічаў у кожным навагоднім парадзе на працягу дзесяці гадоў.

А перамаглі прадстаўнікі Вілейскага раёна. Гэта была аб'яднаная каманда вязынскай школы і селішчанскага Дома культуры. Яны атрымалі новыя касцюмы Дзеда Мароза і Снягурачкі.

Пра гэта расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо.**

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота ok.ru.

Вілейская Снягурачка Ірына Новік.



Фота Ігара МАРОЗА.

Кінутая хата ў вёсцы Роткавічы Смаргонскага раёна.

# Не хочаце ў спадчыну, тады – на дровы

## Што робяць са старымі дамамі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Наколькі актуальная для вёсак Вілейшчыны праблема старых дамоў?**

Па словах Аляксандра Маліноўскага, старшыні Даўгінаўскага сельсавета, праблема старых дамоў тут надзвычай актуальная. На тэрыторыі шмат вёсак.

– Як ні балюча пра гэта гаварыць, але многія вёскі дажываюць, – дзеліцца старшыня.

### Прызнанне дома старым прыбавіць клопатаў сельсавету

Па яго словах, у вёсках, што стаяць на беразе Віліі, як, напрыклад, Камена, праблем са старымі недагледжанымі дамамі няма. Шмат хто хоча набыць іх у вёсцы побач з ракой і лесам.

А вось, што да вёсак на мяжы з Віцебскай вобласцю, на іх попыту няма.

Гаспадары хат паміраюць, а дзеці не хочуць уступаць у спадчыну.

І гэта таму, лічыць Аляксандр Маліноўскі, што, калі дзеці афармляюць дом у спадчыну, яны павінны плаціць падаткі за яго. І не маленькія. Бацькі, якія жылі тут, грошай не плацілі, бо пенсіянераў вызваляюць ад такіх падаткаў.

Дзеці разумеюць, кажа старшыня, што часта стары бацькоўскі дом немагчыма прадаць. Раз у год яны прыязджаюць, абкошваюць участак. І ніякіх прэтэнзій, калі ў двары абкошана, сельсавет прад'явіць не можа.

– Безумоўна, мы працуем са спадчыннікамі, адшукваем іх, прапануем афармляць у спадчыну дом. Але чалавек можа сказаць, што цяпер у яго няма грошай на афармленне. І прымусіць яго мы ніяк не можам, – кажа Аляксандр Маліноўскі.

Часам дзеці пішуць дакументы, у якіх адмаўляюцца ад дома. Тады непатрэбнае старое жытло можна знесці. Работнікі сельсавета робяць гэта з дапамогай спецыяльнай тэхнікі. Драўніну аддаюць на дровы калгасу або старым людзям.

Можна, канешне, без спадчыннікаў афіцыйна прызнаць жытло старым і знесці яго, але гэта не лепшы варыянт, упэўнены старшыня Даўгінаўскага сельсавета. Працэдура зойме каля двух гадоў. Плюс матэрыяльныя выдаткі.

Суд афіцыйна прызнае дом старым. А ў выніку яго "павесяць" на сельсавет. Супрацоўнікам трэба будзе рабіць пашпарт на дом, бо ў большасці яго няма. А тады зноў, кажа старшыня, трэба думаць, што рабіць з гэтым дамком. Добра, калі яго купяць з аўкцыёна. Але гэта мала верагодна. Атрымаецца, што бюджэтныя грошы ў зямлю закапалі.

### Пакупнікоў вабіць прырода і блізкасць да сталіцы

Па словах Аляксандра Маліноўскага, у іншых сельсаветах былі выпадкі, калі пасля афіцыйнага зносу старога дома раптам з'яўляліся спадчыннікі і падавалі ў суд на ўлады.

**Пэўныя праблемы, на думку Аляксандра Маліноўскага, узнікаюць, што па дакументах людзям, каб уступіць у спадчыну, даецца тры гады. Гэта вельмі шмат, упэўнены старшыня.**

У Ільянскім сельсавеце, расказаў старшыня **Мікалай Русак**, праблема старых будынкаў не вельмі вострая, але ёсць. За гэты год у вёсках сельсавета знеслі восем дамоў. Афіцыйна старымі прызнаны 22.

Калі магчымыя спадчыннікі пішуць адмову ад дома, яго зносяць. Участак на тым месцы прыводзяць у парадак. Увесь матэрыял, які можна выкарыстаць, бяруць для ацяплення фермаў.

Часам участак ад знесенага дома сельсавет можа прадаць. Па словах Мікалая Русака, участкі ў вёсках сельсавета цяпер недарагія. Але і вялікага попыту на іх няма.

Адмовы ад спадчыны здараюцца ў бесперспектыўных вёсках, дзе няма добрай інфраструктуры. У Ілы ж дамы звычайна набываюць для лецішча: аграгарадок гэты ўпарадкаваны, ёсць магазіны. Побач лес, рака, вадасховішча. Ды і блізкасць ад сталіцы вабіць пакупнікоў.

– Як старшыня Вілейскага Савета дэпутатаў, я зацікаўленая ў тым, каб дамы ў вёсках не зносілі, а набывалі. – кажа **Наталля Радзевіч.**

Па яе словах, дачнікі заўсёды добра дагледваюць дамы. І тады яны ўпрыгожваюць вёскі.

У Вілейскім раёне за 11 месяцаў гэтага года знеслі 52 дамы.

У самой Вілейцы, па словах галоўнага архітэктара **Дзмітрыя Гарланава**, афіцыйна дамы старымі не прызнавалі.




Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)





Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Загадчыца маладзечанскай паліклінікі Іна Саўчык упэўнівае бацькоў, што нават у цукерках у невялікай колькасці алкаголь шкодны для дзіцяці.

# Ці трэба на навагодніх салодкіх падарунках рабіць пазнаку 18+

**Выбіраючы салодкі навагодні падарунак дзецям, у першую чаргу мы звяртаем увагу на ўпакоўку, колькі важыць навагодняя радасць для дзяцей і на краіну-вытворцу.**

Толькі адкрыўшы яго дома, і дзеці, і дарослыя пачынаюць перабіраць цукеркі і адкладаць тыя, што будуць есціся ў першую чаргу, і тыя, што могуць пачакаць да лепшых часоў.

Мы паглядзелі на навагодні падарунак з іншага боку: ці трэба на некаторых пазнака 18+.

## Салодкія, але з водарам гарэлкі

У некаторых, акрамя цукерак з вафельнымі і памаднымі начынкамі, ёсць і алкагольныя. Самыя вядомыя сярод іх цукеркі беларускага вытворцы "Сталічныя" і карамель "Сталічная".

Паглядзім на іх склад, каб вызначыць, наколькі яны алкагольныя.

**"Сталічныя" цукеркі маюць фруктовы слой са слівавага пюрэ і лікёрны слой на аснове настойкі "Белавежская". У склад карамелі "Сталічнай" уваходзяць цукар, патака, малако цэльнае згушчанае, вільгацеўтрымальны агент сарбітавы сіроп, спірт этылавы рактыфікаваны не ніжэй вышэйшай ачысткі, замяняльнік малочнага тлушчу, араматызатар "Гарэлка".**

У кілаграмовых падарунках, напрыклад, "Снегіры Эком" і "Дзед Мароз і Снягурачка Эком", такіх цукерак няшмат: чатыры карамельныя і адна шакаладная. Пытанне ў іншым, ці варта іх даваць есці дзецям.

## "Споўніцца 16, можна і падумаць"

– Цяпер у магазінах безліч цукерак, якія розныя на смак, у рознай упакоўцы. Выбраць можна на любы густ і кашалёк, – гаворыць загадчыца маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Іна Саўчык.** – Таму не бачу сэнсу даваць цукеркі, якія ўтрымліваюць хаця б міліграм спіртнога ці маюць водар пэўнага спіртнога напою. Алкаголь – шкодны для дзяцей.

Катэгарычнай аказалася і мама сямігадовай Настассі **Жанна Горбань**.

– Такія цукеркі ў нашай сям'і для дачкі пакуль пад забаронай, – дзеліцца жанчына. – Няхай споўніцца хаця б гадоў 16, тады можна і падумаць. У магазінах хапае розных цукерак, каб зрабіць жыццё дзіцяці салодкім.

Падтрымала такую пазіцыю і маці дваіх дзяцей **Ульяна Макавец**.

**Марыя Бельская** лічыць, што дзецям варта паказаць, у якую абгортку загорнутыя алкагольныя цукеркі, патлумачыць, што яны толькі для дарослых.

– Аднак калі дзеці выпадкова дзе знойдуць і з'ядуць некалькі, прытомнасці не страчу, усякае здараецца, – адзначае жанчына. – Здаецца мне, не так там шмат алкаголю. Хоць кажуць, раней былі такія цукеркі з чыстым алкаголем у сярэдзіне, мне такія не сустракаліся яшчэ.

Маладзечанскі псіхолаг **Таццяна Жданава** кажа, што адназначнага адказу на гэта пытанне даць не можа.

– Канешне, алкаголь – гэта вельмі дрэнна, – зазначае спецыяліст. – Аднак думаю, што ніхто з бацькоў нават падумаць не можа, што ў дзіцячым падарунку разам ляжаць і цукеркі з алкаголем.

У любым выпадку, вырашаць вам, шаноўныя бацькі, якімі цукеркамі ласаваць дзіця. Аднак усё ж такі раім перад тым, як падарыць дзіцяці салодкі падарунак, выняць цукеркі, якія могуць хаця б на грам нашкодзіць.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

**ЛІЧБА НУМАРА**

**За які час выйдзе алкаголь**

**Мужчына вагой 80 кг**

гарэлка – праз **4** гадзіны

шампанскае – праз **1** гадзіну

Жанчыне трэба ў **2** разы больш часу, каб вывесці спіртное

Колькасць спіртнога – 100 мл

Паводле gorad.by.

Інфаграфіка Галіны СУДНІКОВІЧ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.12 | 29.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9577 | **1,9519** |
| Еўра | 2,0372 | **2,0430** |
| Злоты, 10 | 4,6428 | **4,6365** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2040 | **3,2182** |
| Грыўня, 100 | 7,4638 | **7,3266** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 21.12 і 28.12** | | |
| Еўра | 2.0300/2.0500 | **2.0200/2.0450** |
| Долар ЗША | 1.9550/1.9780 | **1.9400/1.9600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 21.12 | | 28.12 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 159 900 | 15,99 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 32 600 | 3,26 | 32 600 | 3,26 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Алей "Фермер", 1 л | 22 000 | 2,20 | 22 000 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 000 | 0,70 | 7 000 | 0,70 |
| Часнок, 1 кг | 65 000 | 6,50 | 69 500 | 6,95 |
| Капуста, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 700 | 0,37 |
| Морква, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 000 | 0,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 16 900 | 1,69 | 16 900 | 1,69 |
| Лімоны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 33 900 | 3,39 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 26 900 | 2,69 |
| Гранаты, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 37 500 | 3,75 |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 34 500 | 3,45 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 39 000 | 3,90 | 38 500 | 3,85 |
| Агуркі, 1 кг | 39 000 | 3,90 | 44 500 | 4,45 |
| Перац, 1 кг | 44 500 | 4,45 | 49 500 | 4,95 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 39 000 | 3,90 |
| Вінаград, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 37 500 | 3,75 |
| Бананы, 1 кг | 19 000 | 1,90 | 19 500 | 1,95 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 14 500 | 1,45 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 23 900 | 2,39 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |





## На Ільяншчыне ў адзін дзень згарэлі два дамы

**ВІЛЕЙКА**

Два пажары амаль у адзін час здарыліся на Ільяншчыне.

28 снежня раніцай у Ілі згарэў драўляны дом па вуліцы Маладзёжнай. Выратавальнікі, якія прыехалі на месца, па словах відавочцаў, ужо нічога зрабіць не змаглі. Жыллё выгарала знутры.

Па словах сведак, пажар пачаўся з сеняў. У доме жыла сям'я настаўнікаў-пенсіянераў, вядомых у Вілейскім раёне. Яны не пацярпелі.

Прыкладна гадзінай пазней пачаўся пажар у суседняй вёсцы Дварэц. Тут таксама згарэў драўляны дом.

У вілейскім аддзеле МНС факт пажараў пацвердзілі.

## Не патануў, а ўчадзеў рыбак

**ВІЛЕЙКА**

Раніцай 27 снежня ў вілейскую выратавальную станцыю паведамілі пра тое, што на вадасховішчы загінуў рыбак.

Здарэнне адбылося паміж паўвостравам і дамбай.

Начальнік вілейскага Следчага камітэта **Яўген Мягкоў** расказаў, што пры аглядзе трупа ў мужчыны знайшлі дакументы. Стала вядома, што загінулы рыбак – мінчанін 1954 года нараджэння. Папярэдняя прычына смерці – атручэнне чадам.

У рыбацкай палатцы стаяў прымус. З яго дапамогай мужчына грэўся і гатаваў ежу. Палатка была шчыльна зачыненая, таму, мяркуюць, у ёй назапасіўся чад.

У Следчым камітэце нагадалі, што ў час адлігі забаронена выходзіць на лёд. І нават калі надвор'е спрыяе зімовай рыбалцы, варта паклапаціцца пра сродкі для выратавання.

## Расіянін трапіў у аварыю

**МЯДЗЕЛ**

Адбылося гэта 26 снежня каля 10-й раніцы на 111-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Калачы-Мядзел.

32-гадовы грамадзянін Расіі ехаў на аўтамабілі "Шкода-Актавія" ў напрамку Мядзела. Машына выехала на паласу сустрэчнага руху і сутыкнулася з аўтамабілем "Опель-Вівара", паведамляе ДАІ Мінскай вобласці. "Опелем" кіраваў 50-гадовы кіроўца.

У выніку з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізавалі кіроўцу і 32-гадовую пасажырку аўтамабіля "Шкода", і двух пасажыраў "Опеля": 63-гадовую жанчыну і 41-гадовага мужчыну.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота tut.by.

Павел Цыбін у зале суда.

# Вынеслі прыгавор кіроўцу, які насмерць пераехаў школьніцу на ўборцы бульбы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Суд вынес рашэнне 23 снежня. Паводле яго, Паўлу Цыбіну прысудзілі адбываць пакаранне ва ўстанове адкрытага тыпу тэрмінам на тры гады.**

Таксама ён пазбаўлены права кіраваць машынай на пяць гадоў.

Цяпер мужчына падпісаў падпіску аб нявыездзе да моманту ўступлення прыгавору ў сілу.

Суд вынес прысуд, пагадзіўшыся з тым, якую меру пакарання патрабаваў для Паўла памочнік пракурора **Святаслаў Цітовіч**.

Па законе на працягу дзесяці дзён ён мае права абскардзіць рашэнне ў вышэйстаячым судзе.

Пасля суда мы пагаварылі з бацькамі **Вікторыі Папчэні**.

– Усё ж такі мужчына будзе мець магчымасць гадаваць сваё дзіця пасля адбывання пакарання, у нас такой магчымасці ўжо няма, – адзначыла маці **Юлія Папчэня**. – Так, зразумела, што мне яго намацярынску шкада: маленькі, худзенькі, зусім яшчэ дзіця. Самае складанае нас чакае наперадзе.

Бацька дзяўчынкі **Алег Папчэня** заўважыў, што калі б суд па просьбе абароны Паўла прысудзіў яму пакаранне ў выглядзе папраўчых работ, то гэта было б вельмі жорстка ў адносінах да бацькоў дзяўчынкі, якая загінула пад коламі аўтамабіля, якім кіраваў Павел.

**Пасля Новага года суд па справе Вікторыі Папчэні прадоўжыцца, але на лаву падсудных ужо сядуць настаўнікі дзяўчынкі, што суправаджалі дзяцей у той дзень на сельскагаспадарчыя работы.**

**Наталля ТУР.**

**● УВАГА! ВЫШУК**

## У Расіі знікла 18-гадовая маладзечанка

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанская міліцыя шукае зніклую **Таццяну Валер'еўну Хаценку.**



Фота krai.by.

Яна нарадзілася 17 верасня 1998 года, жыве па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне.

7 снежня яна з'ехала ў горад Адлер на заробкі і ад 15 снежня не выходзіць на сувязь.

На выгляд ёй 18 гадоў, сярэдняга росту і целаскладу. Чорныя прамыя валасы.

Была апранутая ў вязаную цёмна-бэзавую шапку, цёмна-бэзавы пухавік да каленяў ці карычневае паліто, белую кофту, штаны і чорныя красоўкі.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклай, паведаміце маладзечанскай міліцыі па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-16-56** ці **102.**

## Шукаюць мужчыну, які знік у 1992 годзе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага **Вячаслава Сцяпанавіча Паздзеева.**



Фота krai.by.

Нарадзіўся 26 жніўня 1940 года. Ураджэнец Удмурцкай АССР. Зарэгістраваны ў Маладзечне.

У 1992 годзе з'ехаў на заробкі ў Расію, і дагэтуль яго месцазнаходжанне невядомае.

Асаблівыя прыкметы: татуіроўка на правым запясці ў выглядзе сонца, надпіс на вялікім пальцы "Слава". Па нацыянальнасці ўдмурт.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміце маладзечанскай міліцыі па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-16-56** ці **102.**

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.**

## На Валожыншчыне пенсіянер памёр ад сардэчнага прыступу, калі ўбачыў, што ў яго гарыць гараж

**ВАЛОЖЫН**

**Здарэнне адбылося 21 снежня ў вёсцы Узбалаць. Там цягам 10 год жыў 68-гадовы мужчына.**

На выхадныя да яго прыязджалі жонка і сын, калі ў таго быў выхадны.

20 снежня сын прыехаў да бацькі, яны вечарам напалілі лазню. Памыліся і перад сном селі глядзець тэлевізар.

Раптам у хаце знікла святло. Мужчыны падумалі, што гэта з-за надвор'я, і ляглі спаць.

А праз некаторы час сусед таксама заўважыў, што знікла святло. І ў гэты ж момант пачуў, што на вуліцы нешта моцна страляе.

Першая думка была, што дзеці ўзрываюць петарды, але вырашаў выйсці праверыць, ці не гарыць што, бо і на страляніну шыферу гук таксама быў падобны.

Выйшаў у двор і ўбачыў, што гараж суседа гарыць адкрытым полымем. А побач у вальеры брэша, аж заліваецца, сабака.

Сусед выпусціў сабаку і зразумеў, што суседзі, пэўна, спяць і пра гэта не ведаюць.

Стаў грукацца ў вокны.

Выклікалі пажарных.

Бачачы, што гараж і маёмасць у ім выратаваць не ўдасца, сусед і гаспадар дома стаялі ля плота.

Раптам 68-гадоваму мужчыну стала блага, ён упаў. "Хуткая дапамога", што прыехала на месца здарэння, канстатавала смерць.

Пра гэты выпадак "Рэгіянальнай газеце" расказала следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

– Пажар здарыўся, хутчэй за ўсё, праз няспраўную электраправодку ці кароткае замыканне. А вось ці стала прычынай смерці тое, што сэрца мужчыны не вытрымала гэтага стрэсу, скажа экспертыза.

**Наталля ТУР.**






Фота Наталлі ТУР.

Павел Асіповіч трымае ў руках пеўня Паўлаўскай пароды.

# Маладзечанец разводзіць сімвалаў новага года

МАЛАДЗЕЧНА

**У захапленні Паўла Асіповіча дзіўна ўсё: і тое, што ён гадуе на сваім падворку 15 пеўняў розных парод, і тое, што займаецца гэтым столькі, колькі сябе памятае, і тое, што жыве Павел амаль у цэнтры горада, па Вялікім Гасцінцы.**

Гарадскія пеўні адчуваюць сябе добра, нават у снезні гуляюць па двары, спяваюць.

– У нас па суседстве жывуць людзі, якія прыязджаюць толькі на лета, але тады на маіх гадаванцаў скардзяцца, маўляў, спаць не даюць, – расказвае Павел. – І сапраўды, яны ж спяваюць цэлую ноч, а было іх у мяне летам 50 штук.

Дарослы пародзісты певень на рынку каштуе 30 рублёў.

– Гаспадары, вядома, выбіраюць свойскую птушку, хаця каштуе яна ў разы даражэй, чым з фабрыкі.

Куранятаў жа прадаюць па два рублі за штуку.

– Сезон на куранят пачынаецца ў красавіку і доўжыцца да кастрычніка. У гэты час за выхадныя я прадаю да 100 куранят. Таму гэта адзіная мая работа, якой я зарабляю на жыццё.

Павел прызнаецца, што яго пеўняў на рынку цэняць, некаторыя спецыяльна прыязджаюць па пародзістых пеўняў.

А выбраць ёсць з чаго. Вось па двары ходзіць вялізны бліскучы певень – гэта Маран. А вунь бегаюць чорна-белыя дробныя пеўнікі – гэта Гамбургскія.

Аднак любімчыкі ў Паўла пеўні Паўлаўскай пароды. Яны пярэстыя, з чубком на галаве.

**Ёсць у гаспадарцы і не зусім звычайныя, напрыклад, бясхвостая парода – Араўканы.**

У іх круглы азадак. А яшчэ куры гэтай пароды нясуць незвычайныя зеленаватыя яйкі.

Павел прызнаецца, што на навагоднім стале курацiны ў яго не будзе.

– Па-першае, гэта таму, што ўсё ж не трэба, каб сімвал Новага года быў на талерцы, а па-другое, мы не так даўно забілі кабанчыка, так што курацiны і не трэба.

У Паўла на падворку акрамя пеўняў бегаюць і рохкаюць кабанчыкі. Калі Павел сыпануў курам збожжа, адзін з іх частаваўся разам з птушкамі.

На пытанне, ці шмат часу адбірае ў Паўла яго захапленне, гаспадар шчыра прызнаецца:

– Летам я не заходжу ў дом увогуле, няма часу, нават абедаю на вуліцы. Бывае, што праводжу санітарныя дні, калі трэба пачысціць усе клеткі.

Вы думаеце, што Павел абмежаваўся ў сваёй гаспадарцы толькі курамі і свіннямі?

А што вы скажаце на тое, што **па Вялікім Гасцінцы "прапісаныя" індыкі, качкі, гусі, фазаны, перапёлкі, трусы і нават марскія свінкі, а таксама сабака і тры каты?**

– Ката аднойчы ледзьве не забіў, вырваў у мяне з рук малога трусіка і задушыў яго, – абураецца Павел. – Смяротныя выпадкі ў нас здараюцца рэгулярна, і не без дапамогі гэтага рыжага драпежніка, што шнуруе туды-сюды па двары.

Паўлу налета споўніцца 30 гадоў. Але сабе ён ужо зрабіў цудоўны падарунак – набыў хутар у Смаргонскім раёне.

– Вясной думаем з жонкай перабірацца туды. Гаспадарку ўсю перавязём, тады можна будзе думаць і пра тое, каб завесці карову, бо мяса і яйкі ў нас ёсць, а па малако пакуль трэба ўсё ж хадзіць у магазін.

**Наталля ТУР.**

## Складнікі, якія дапамогуць стаць вельмі прыгожай




**На гэты раз пагаворым, што такое прыгажосць і для чаго людзі хочуць быць прыгожымі. Наўрад ці ёсць сярод чытачоў тыя, хто не хоча.**

Прыгажосць – паказчык здароўя як фізічнага, так і псіхічнага. Па колеры і стане скуры, валасоў, вачэй, паху цела, фігуры дактары могуць даць папярэднюю ацэнку здароўя, а мужчыны і жанчыны зразумець, ці прыцягальныя яны адзін для аднаго.

Стаць прыгажэйшымі, значыць палепшыць знешнія паказчыкі здароўя.

Добры чалавек ужо аўтаматычна сімпатычны, а калі ён яшчэ і даглядае за сабой, ён будзе падабацца ўсім. А злы, нервовы і занепакоены будзе адпуджваць і падабацца такім жа, як і сам. Тым, хто пастаянна ў стрэсе, "шанцуе на дурняў". Іншыя ix проста ігнаруюць.

Каб сапраўды быць прыгожым чалавекам, трэба не толькі фізічная прыгажосць, але і высокая ўнутраная культура, гарманічнасць і дабрыня.

### Для чаго ўсім падабацца?

Здаецца, што ў цяперашні час кожны сам вырашае, прыгожы ён ці не, разумны альбо дурны. Ацэнка навакольных не такая важная. І нехта скажа, што можна хадзіць з зарослай галавой і дрэннай скурай, у брудным адзенні і дрэнна пахнуць. Але нікому не падабаюцца непрыгожыя людзі. Гэта факт, які патрэбна зразумець.

### 5 прычын змагацца з непрыгажосцю

1. Непрыгожага чалавека не возьмуць на добрую працу.
2. Яму будзе цяжка ў асабістым жыцці.
3. Непрыгожыя людзі больш схільныя да дэпрэсіі, нелюбові да сябе.
4. З імі цяжка кантактаваць, іх называюць непаспяховымі.
5. Такія людзі пакутуюць на соцыяпатыю, не хочуць нікога бачыць, баяцца іншых людзей. І каб іх не чапалі, перастаюць за сабой сачыць, скочваюцца ўніз сацыяльных нормаў. Людзей, якія не сочаць за сабой, у большай ступені чакаюць сацыяльныя драмы, разводы, крыўды на ўвесь свет і абвінавачанне, што "мужыкоў нармальных ужо няма".

Аднак нярэдка асуджаюць і прыгожых людзей, што яны ўсміхаюцца і радуюцца жыццю.

Пры гэтым давайце скажам шчыра, паміж людзьмі заўсёды ёсць натуральная канкурэнцыя. Мужчыны спаборнічаюць у сіле, колькасці грошай, уладзе, жанчыны выхваляюцца мужчынамі, дзецьмі і прыгажосцю. На гэтым пабудаваныя многія ўзаемасувязі, і кожны хоча перамагчы ў барацьбе за дастойнае месца. Нават калі хваліцца няма чым, людзі імкнуцца ўдзельнічаць у канкурэнцыі і пачынаюць прысвойваць сабе чужыя дасягненні і ганарыцца імі.

Але гэта толькі ілюзія: чужыя перамогі і застаюцца чужымі. Па-сапраўднаму стаць прыгожым і шчаслівым можна толькі ў адным выпадку – прывучыць сябе быць прыгожым знешне і ўнутрана.

Таму кожны спецыяліст індустрыі прыгажосці – гэта заўсёды мудры псіхолаг, мэта якога не толькі ўмець тэхнічна класна выканаць прафесійныя навыкі, аднак і паказаць свайму кліенту ўсе грані прыгажосці, раскрыць чалавека, падарыць радасць.

**Дагледжанасць+ахайнасць+ станоўчыя эмоцыі=прыгажосць**

# Землятрус у Астраўцы і дэфіцыт солі ў рэгіёне:
## што прыносіў нам год Пеўня

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Калі верыць усходняму календару, сімвалам 2017 года стане Чырвоны Вогненны Певень.**

Якім будзе новы год, мы яшчэ не ведаем. Затое, прыгадаўшы гісторыю рэгіёна, можам сказаць, што прыносіў нам Певень у іншыя гады.

**1909**

Па словах старшага навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея **Вольгі Коласавай**, год Землянога Жоўтага Пеўня быў у нашым рэгіёне даволі спакойным. У Вілейцы і іншых гарадах Павілля пачало з'яўляцца больш мураваных будынкаў.

У Вільні адбылася першая сустрэча актрысы і настаўніцы **Паўліны Мядзёлкі** з Мядзельшчыны і паэта **Янкі Купалы.**

У Свіры на Мядзельшчыне перабудавалі Мікалаеўскі касцёл.

Па меркаваннях навукоўцаў, у Астравец Земляны Жоўты Певень прынёс землятрус у сем балаў.

**1921**

У год Металічнага Белага Пеўня ўвесь рэгіён, паводле Рыжскага мірнага дагавора, адышоў да Польшчы. У гарадах з'яўляюцца вуліцы 3 Мая (Дзень Канстытуцыі), **Юзафа Пілсудскага.** У Вілейцы пачынае працаваць польская гімназія імя **Генрыха Сянкевіча.** Будынак гімназіі захаваўся да нашага часу. Сёння там месціцца Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

**1933**

Ці думаў Прэзідэнт Польшчы **Ігнацій Масціцкі** пра тое, што 1933 год – гэта год Вадзяного Чорнага Пеўня, невядома. Але ў Вілейку і ў Ілью ён прыехаў менавіта тады. Прыехаў на адкрыццё помніка-капліцы паўстанцам 1863 – 1864 гадоў, што загінулі ля вёскі Уладыкі. Масціцкага сфатаграфаваў вілейскі фатограф **Берка Берман**. За што ў 1939 годзе яго арыштавалі савецкія ўлады: у фотамайстэрні Бермана вісеў партрэт Масціцкага. Помнік не захаваўся. У 1950-я гады яго разбурылі.

У гэтым жа годзе ў Баярах на Ільяншчыне нарадзіўся паэт член Саюза пісьменнікаў БССР **Іван Лашутка**.

**1945**

Перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне прынёс Сіне-Зялёны Драўляны Певень.

Рэгіён, разбураны ў вайну, адбудоўваюць.

У Вілейцы прынялі рашэнне пра будаўніцтва сярэдняй школы на 400 чалавек, пачалі выдаваць вілейскую раённую газету.

У Мядзеле запрацавала раённая бальніца на 25 ложкаў.

Выйшла кніга паэта з Мядзельшчыны **Максіма Танка** “След бліскавіцы”.

Старыя дакументы зафіксавалі ў гэтым годзе вялікі дэфіцыт солі. Бандыты, якія ў гэты час абрабавалі рыбны завод, скралі ўсю вэнджаную рыбу і соль.

У Астраўцы адчынілі райпрамкамбінат і дрэваапрацоўчае прадпрыемства, у Ашмянах – педвучылішча.

**1957**

Сімвалам года, як і надыходзячага, быў Чырвоны Вогненны Певень. У рэгіёне стала менш раёнаў. Бо да Вілейскага далучылі Ільянскі.

Сельгастэхнікум у Ілы прыняў першых навучэнцаў.

**1969**

У год Земляного Жоўтага Пеўня на Мядзельшчыне адкрылі дзіцячы рэспубліканскі лагер “Зубраня” і музей народнай славы.

**1981**

У год Металічнага Белага Пеўня Вілейскі малаказавод пераехаў у новы будынак, дзе працуе да сённяшняга дня.

Археолаг **Міхаіл Ткачоў** знайшоў месца, дзе знаходзіўся старажытны горад Мядзел на востраве возера Мястра.

**1993**

У гэтым годзе Певень быў Вадзяным і Чорным. Што ён прынёс у рэгіён? Новую экспазіцыю вілейскаму краязнаўчаму музею, дзе з'явіліся раздзелы “Час”, “Вытокі”, “Вілія”.

У Астраўцы правялі даследаванне, паводле якога пляцоўку для будаўніцтва атамнай электрастанцыі аб'явілі неспрыяльнай.

**2005**

Гэты год адзначыўся здымкамі фільма “Апошні бранявоезд” з акцёрам **Андрэем Паніным.** Кадры здымаліся ля чыгуначнага моста праз Вілію. А ў “Рэгіянальнай газеце” з'явілася інтэрв'ю з Паніным.

У вілейскім парку дэмантавалі кола агляду.

А ў Мядзеле прайшоў музычны фестываль “Адна зямля”.




Архіў “РГ”.

У 2005 годзе кола агляду ў вілейскім парку дэмантавалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі зроку адзначылі Новы год

МАЛАДЗЕЧНА

**Новы год мы не ўяўляем без Дзеда Мароза.**

На свяце ў маладзечанскай школе-інтэрнаце №2 для дзяцей з парушэннямі зроку такіх “Дзядоў Марозаў” было некалькі. Падарункі для выхаванцаў уручылі прадстаўнікі ўпраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці, супрацоўнікі прадпрыемства “Белмедпрэпараты”, хакеісты з маладзечанскага клуба “Дынама-Маладзечна”.

Па словах старшага следчага з Маладзечна **Юрыя Багушэвіча**, па ініцыятыве ўпраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Маладзечанскі раённы аддзел СК супрацоўнічае са школай-інтэрнатам ужо пяць гадоў.

Сёлета начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення **Павел Ігнатаў** падарыў для выхаванцаў інтэрната вялікі тэлевізар:

– У школе вы шмат займаецеся спортам. Глядзіце на вялікім экране спартыўныя мерапрыемствы, вучыцеся. Жадаю вам не хварэць і больш усміхацца.

Ад хакеістаў “Дынама-Маладзечна” былі пажаданні поспехаў у вучобе. А яшчэ ад іх дзеці атрымалі настольны футбол.

Па словах дырэктара школы-інтэрната **Наталлі Глінскай**, педагагічны калектыў школы даўно супрацоўнічае з прадпрыемствам “Белмедпрэпараты”. Яго прадстаўнікі таксама былі на свяце. Ад іх дзеці атрымалі спартыўны інвентар.

І ніхто з ганаровых гасцей не пакінуў выхаванцаў без салодкіх падарункаў.

А потым пачалася казка, дзе акцёрамі былі настаўнікі і вучні школы-інтэрната. Разам з казачнымі героямі гледачы ратавалі Дзеда Мароза з палону Кашчэя.

Сцэнарый стварыла педагог-арганізатар **Вера Міцько**. Па словах жанчыны, сцэнарый цалкам аўтарскі. Інтэрнэтам для яго падрыхтоўкі яна не карысталася.

Закончылася свята карагодамі вакол навагодняй ёлкі. Тут танцавалі і дзеці, і настаўнікі, і следчыя, і хакеісты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., 1,3 бензін, белы колер. Вілейка. Т. (8-029) 3784192.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- Запчасткі б/к да Опель-Астра, 1997 г.в., 1,6 мона, хэтчбэк. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі б/к да ВАЗ-2101. Т. (8-044) 4703638.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі, для сябе. Т. (8-029) 1696265, (8-029) 7703210.*
- Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*
- Іншамарку для сябе, на ходу, можна аварыйную альбо з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 5 паверх, без рамонту. Т. (8-029) 1652325.*
- 2-пакаёвая кватэра ў 3-кватэрным блакіраваным доме ў Маладзечна без пасярэднікаў. Т. МТС (8-029) 5766527.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы і гараж у ГБК-4. Т. (8-029) 2521100.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-025) 7417101, (8-01771) 20165.*
- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*
- 2-пакаёвая кватэра, 49,7 кв. м, пакоі, санвузел асобна, 4/5 цэгла, у Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 11-а. Т. (8-176) 533440.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 5527421.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Два гаражы, якія стаяць побач, падвал па перыметры, вышыня варот 2,5 м, ГК 39 у Маладзечне. Т. (8-044) 7387674.
- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.
- Участак 13 сотак, 1 км ад Вілейкі, в. Івонцавічы. Т. (8-033) 6125798.

### ЗДАМ

- Пакой для хлопца ў Маладзечне ў раёне Лядовага палаца. Т. (8-029) 5719435.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду плошчы ад 12 до 100 кв.м. Т. (8-029) 7662646.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***



### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзіванавіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выканаем комплексны рамонт: тынкоўка, столь з ГКЛ, шпаклёўка, афарбоўка, электрыка, сантэхніка, укладка пліткі, ламінату, паклейка шпалер (обоев). ІП Крывашэя В.Г. УНП 691885229. Т. (8-029) 1391932.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

# УВАГА! ВЫШУК

## Без вестак знік ураджэнец Вілейкі

ВІЛЕЙКА

Знік **Касяк Андрэй Віктаравіч**, ураджэнец Вілейкі, 1975 года нараджэння, які пражывае па адрасе: Мінская вобласць, Мінскі раён, пасёлак Калодзішчы.

Сёлета 4 лістапада каля 08:15 выехаў з дома на сваім аўто Audi Q7 чорнага колеру (тániраванае, чорны салон, рэгістрацыйны знак Н361НХ 150 RUS) на працу (г. Мінск, Партызанскі праспект). Да цяперашняга часу пра яго месцазнаходжанне нічога невядома.

Прыкметы: рост 185 сантыметраў, целасклад нармальны, вочы зялёныя, валасы светла-русыя, ёсць залысіны.

Меркавана быў апрануты: чорныя штаны, сарочка, паліто, чаравікі чорныя, асеннія.

Фота з сацыяльных сетак.

**Андрэй Касяк.**

Усіх, хто валодае інфармацыяй пра месцазнаходжанне Андрэя Касяка, просяць паведаміць па тэлефонах:
**+375 33-6666-033;**
**+375 33 6666-856**
або па тэлефоне **102**.

**Паводле пошукавага атрада "Анёл".**



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

*Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*



Архіў "РГ".

Праверкі аддзела дзяржнагляду знаходзіць парушэнні тэхрэгламенту Мытнага саюза.

# Прадпрымальнікі працягваюць парушаць тэхрэгламент

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Аддзел дзяржнагляду Маладзечна Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску цягам года зладзіў шэраг маніторынгаў індывідуальных прадпрымальнікаў у Маладзечне і Вілейцы.**

Разам з імі ўдзельнічалі работнікі тэрытарыяльнага аддзела кантролю спажывецкага рынку гандлёвай інспекцыі.

Нягледзячы на праведзеную раней тлумачальную работу і кантрольна-наглядныя мерапрыемствы, знайшлі выпадкі парушэнняў тэхрэгламенту Мытнага саюза. Парушэнні тычыліся тэхрэгламенту лёгкай прамысловасці, прадукцыі для дзяцей і падлеткаў і цацак.

Здараюцца выпадкі, калі спажыўцу прапануюць тавар без наймення і адрасу вытворцы, без даты вырабу. Часам адсутнічае абазначэнне памераў, сімвалаў па доглядзе і саставе вырабу. Часам сертыфікаты не распаўсюджваліся на тыя партыі, якія прадавалі.

Цягам гэтага года да прадпрымальнікаў не прымяняліся меры адміністрацыйнага ўплыву, калі знаходзілі парушэнні пры выпуску і продажы. Але практыка паказала, што значнага паляпшэння, каб прытрымліваўцца тэхрэгламенту, не адбываецца.

Ад жніўня меры адміністрацыйнага ўздзеяння пры парушэннях патрабаванняў тэхрэгламенту вызначаныя Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Раім суб'ектам гаспадарчай дзейнасці пры выпуску і продажы прадукцыі забяспечыць яе адпаведнасць патрабаванням тэхрэгламенту.

**Святлана ДЗЕРАВЯНКА, наместнік начальніка аддзела дзяржаўнага нагляду за тэхнічнымі рэгламентамі і стандартамі і дзяржметрнагляду Маладзечна.**

---

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*

• **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м п., вугалок 40 м п., труба профільная 300 м п. Т. МТС (8-033) 6603068.*



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Піяніна нямецкае антыкварнае. Т. Вэлком (8-029) 6086204.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**

• Кабан жывой вагой альбо мясам. Т. Вэлком (8-044) 5165491.*

• Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

• Парасяты. Т. (8-025) 5334173.*

• Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**Іншае**

• **ДЗВЕРЫ МІЖПАКАЁВЫЯ І МЕТАЛІЧНЫЯ** стандартных і нестандартных памераў. Замер. Дастаўка. Устаноўка. ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*

• Дыван (ковёр) шарсцяны новы (Бельгія) 2,5х3,5, 700 руб; паліто для мужчыны, новае, фінскае, памер 56-58, 70 руб; куртка Аляска, памер 56-58, 60 руб. Т. (8-029) 9640921.

• Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

• **КУРТКАМАНІЯ ў "АДЗЕНІОПТ"**. Выбар ад А да Я. Самыя смешныя цэны. Таксама ёсць пальчаткі (5 руб), байкі (15 руб), джынсы (22 руб). Дом быту, Маладзечна, вул. Будаўнікоў,15-а, 2 паверх. ІП Каўзовіч А.С. УНП 691886067.*

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-025) 6449793.

• Кацёл-печ у лазню, 390 руб. Т. (8-033) 6535349.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.

• Мотаблок ці міні-трактар у любым стане. Т. МТС (8-033) 6041637.*



**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

• Халадзільнік, маразільнік, тэлевізар, электраінструмент, ноўтбук, б/к. Т. (8-029) 5329229.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Антыкварыят дорага, мэблю, манеты, іконы, самавар і інш. Т. (8-029) 5329229.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Альтанку, арэлі, бытоўку, арматуру, рыштаванні (леса). Т. (8-029) 5329229.*

• Апілкі ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*





• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, сайгака і аленя. Т. Вэлком (8-029) 9834570, МТС (8-033) 6668053.*

• Рогі лася, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*

• Сена, салому. Т. (8-029) 6051424.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згублены 23 снежня тэлефон Айфон 5 S залатога колеру са стразамі, у бэзавым чахле, у раёне гарбальніцы ў Маладзечне, просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 5671878, (8-033) 6339383.

• Прапаў сабака руская гончая светла-карычневага акрасу (рыжы) ў раёне вёскі Раёўка. Просьба пазваніць. Узнагароджанне. Т. (8-029) 6363017.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік. Вялікі досвед працы: тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, падлога, адкосы, гіпсакардон і інш. Т. (8-029) 2775694.*

• Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*

• Шукаю работу па рэстаўрацыі старых дамоў; электрыка. Т. (8-025) 6035930.*





## Беларусь 1

**6.50** Х/ф **"ВЬЮГА".**
**8.30** Народное утро.
**9.00** Новости.
**9.10** "Арсенал". Программа об армии.
**9.40** Т/с **"СВАТЫ-4".**
**10.50** "50 рецептов первого". Кулинарное шоу.
**12.00** Новости.
**12.10** "Беларусь встречает Новый год". Концерт.
**13.10** Х/ф **"ЛЮБОВЬ С АКЦЕНТОМ".**
**15.00** Новости.
**15.10** Коробка передач.
**15.40** Eurovision. Итоги недели.
**16.00** Вокруг планеты.
**16.45** Тайны следствия.
**17.15** Х/ф **"ПОГОВОРИ СО МНОЮ О ЛЮБВИ".** Таня Петрунина – бойкая и прямодушная деревенская девушка, дочь и правая рука председателя колхоза. Накануне свадьбы жених Гришка изменяет ей с городской кокеткой и без зазрения совести бросает невесту. В деревне начинают судачить, удастся ли теперь Тане с ее бойким нравом найти вторую половину. Тем временем на ее сердце уже метят глава агрохолдинга Малахов и новый деревенский шофер Петр. Но удастся ли девушке понять, чьи намерения чисты, а кто хочет получить через нее влияние на жизнь деревни и разрушить колхоз – дело жизни ее отца?..
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **"ГДЕ ЖИВЕТ НАДЕЖДА?".** Мать и дочь, Римма и Алла Пирановы, живут жизнью состоятельных одиноких женщин. Римма – известный литератор. Алла же руководит собственной гимназией. Их привычный мир рушится, когда Римма находит в кабинете покойного сына Николая письмо. В нём некая Рая из Куличевска просит Николая позаботиться об их дочери...

## НТВ-Беларусь

**5.45** "Астропрогноз".
**5.50** Т/с **"ХВОСТ".**
**8.00** "Сегодня".
**8.20** Т/с **"ХВОСТ".**
**9.25** Едим дома.
**10.00** "Сегодня".
**10.20** Т/с **"СТРОЙКА".**
**12.10** Ты не поверишь!
**13.00** "Сегодня".
**13.20** "Жизнь как песня: Стас Пьеха".
**14.00** Х/ф **"ВЕТЕР СЕВЕРНЫЙ".**
**15.45** Т/с **"МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ".**
**19.00** "Сегодня".
**19.25** Х/ф **"ПОСРЕДНИК".**
**22.45** "Live in Kremlin". Юбилейный концерт Валерии.

## Беларусь 2

**7.05** Т/с **"ДРУЗЬЯ АНГЕЛОВ".**
**7.20** Х/ф **"ГУСЯТНИЦА".**
**8.15** Телебарометр.
**8.20** Элементариум.
**8.55** Кулинарный эксперимент.
**9.25** Т/с **"СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ 4".**
**11.10** Х/ф **"ПРЕДСТАВЬ СЕБЕ".**
**13.00** "Орел и Решка. Шопинг". Познавательно-развлекательное трэвел-шоу (Украина).
**14.00** "Любовь онлайн ". Реалити-шоу (Украина).
**15.05** Х/ф **"ПРИНЦЕССА МОНАКО".**
**16.50** Х/ф **"ШРЕК".**
**18.25** Х/ф **"ШРЕК 2".**
**20.05** Понять и обезвредить.
**20.40** Два рубля.
**21.00** Телебарометр.
**21.30, 22.05** "Верните мне красоту". Медицинское реалити (Украина).
**22.00** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**22.55** Х/ф **"УОЛЛ СТРИТ. ДЕНЬГИ НЕ СПЯТ".** Отмотавший срок бывший корпоративный рейдер Гордон Гекко выходит из тюрьмы в совершенно новый мир, стоящий на пороге финансового кризиса. Он – динозавр, чьи методы давно устарели, а репутация играет дурную службу. Но именно его выбирает в партнеры молодой трейдер Джейкоб Мур, предлагающий Гекко сделку: он налаживает отношения старика с дочерью, не общавшейся с ним одиннадцать лет и винящей Гордона за самоубийство брата, а тот помогает ухаживающему за девушкой Джейкобу вскарабкаться на вершину финансовой лестницы.

## ОНТ

**7.00, 8.05** ОНТ представляет: "Воскресное утро".
**8.00, 9.00** Наши новости.
**9.05** "Воскресная проповедь".
**9.20** Премьера."Федор Конюхов.Повелитель ветра".
**10.20** Х/ф **"МОРОЗКО".**
**11.55** К юбилею актрисы. Премьера."Марина Неелова. "Я умею летать".
**12.50** Х/ф **"ТЫ У МЕНЯ ОДНА".** Анонс.
**14.30** ОНТ представляет: Церемония вручения наград премии "Народная марка Беларуси".
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** "Угадай мелодию".
**16.55** Александр Масляков. "Телебиография. Эпизоды".
**17.55** "Клуб Веселых и Находчивых". Высшая лига. Финал.
**20.00** Контуры.
**21.05** "Сочи. Роза Хутор. Рождество 2017".
**23.15** Премьера. Владимир Познер и Иван Ургант в проекте "В поисках Дон Кихота".
**0.15** Х/ф **"МЫ ИЗ ДЖАЗА".**

## Беларусь 3

**7.35** "Беларуская кухня". Курыца з яблыкамі. Тушаная капуста.
**8.05** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**8.20** "**ВАКЗАЛ ДЛЯ ДВАІХ**". Камедыйная меладрама. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**10.35** "Наперад у мінулае".
**11.00** "Нацыянальны хіт-парад".
**12.00** "Музеі Беларусі". Карцінная галерэя Г.Х.Вашчанкі.
**12.25** "Выхад ёсць". Тадэвуш Кандрусевіч.
**12.55** "Святыні Беларусі". Петрапаўлаўскі сабор (Мінск).
**13.25** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**13.40** "Шчаўкунок, ці Яшчэ адна калядная гісторыя". Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**15.20** "Я хачу гэта ўбачыць!" Аршанскі раён.
**15.45** "**БЕЗЫМЕННАЯ ЗОРКА**". Камедыйная меладрама. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1978 г.).
**18.05** "**ПРЫХОДЗЬ НА МЯНЕ ПАГЛЯДЗЕЦЬ**". Камедыйная меладрама (Расія, 2000 г.).
**19.45** "Апошні дзень". Аляксандр Абдулаў.
**20.25** "Калейдаскоп". Навіны культуры.
**20.40** "Калыханка".
**21.05** "**ВЕЧАРЫ НА ХУТАРЫ КАЛЯ ДЗІКАНЬКІ**". Камедыя (СССР, 1961 г.).
**22.10** "Дзякуй вам!" Эдзіта П'еха. Канцэрт.

## РТР-Беларусь

**7.00** "Комната смеха".
**8.00** "Снежная королева - 2. Перезаморозка". М/ф.
**9.25** Х/ф **"12 МЕСЯЦЕВ. НОВАЯ СКАЗКА".** Девочка из нашего времени попадает в сказочный мир. Среди зимы она должна принести из леса букет подснежников, чтобы наступил Новый Год, который решил отменить злой королевский советник. И тогда она вернется к родителям.
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** "Сам себе режиссер".
**12.10** "Смехопанорама Евгения Петросяна".
**12.40** "Утренняя почта".
**13.20** "Комната смеха".
**14.00** ВЕСТИ.
**14.15** ПРЕМЬЕРА. "Смеяться разрешается. Юмористическая программа". Продолжение.
**15.40** ПРЕМЬЕРА. "Золотая магия XXI века в Крокус Сити Холле".
**16.45** Х/ф **"ВСЕ БУДЕТ ХОРОШО".**
**20.00** ВЕСТИ.
**20.35** Х/ф **"КУЗНЕЦ МОЕГО СЧАСТЬЯ".**
**22.20** НОВОГОДНИЙ ГОЛУБОЙ ОГОНЕК - 2017.

## СТВ

**6.00** Х/ф **"ПРИХОДИТЕ ЗАВТРА".**
**7.40** "Добро пожаловаться".
**8.00** "Автопанорама".
**8.30** Х/ф **"РЫЖИЙ, ЧЕСТНЫЙ, ВЛЮБЛЕННЫЙ".** Детский, СССР, 1984 г. Лисенок Людвиг взбунтовался против хитрости и обмана, процветающих в его семье. Непонятый сородичами, он ушел из родного дома. Недалеко от человеческого жилища он встретил Тутту, которая поверила ему. Подружившись с ней, Людвиг вдруг узнал, что она… цыпленок ! А ведь всем известно, что лисам нельзя дружить с курами…
**11.00** "Большой завтрак" с Ириной Ромбальской.
**11.40** Х/ф **"Д'АРТАНЬАН И ТРИ МУШКЕТЕРА".**
**13.30** "24 часа".
**13.45** Х/ф **"Д'АРТАНЬАН И ТРИ МУШКЕТЕРА".**
**16.30** "24 часа".
**16.50** "Центральный регион".
**17.20** "Автопанорама".
**17.50** "Военная тайна с Игорем Прокопенко".
**19.30** "Неделя". Информационно-аналитическая программа.
**20.25** "Легенды Ретро FM".
**22.00** Х/ф **"ЛЮБОВЬ ПРИХОДИТ ТИХО".** Мартин Клэридж мечтала, что в Америке, в Новом Свете, они с мужем начнут новую жизнь. Но отважная женщина внезапно становится вдовой, и у неё появляется возможность выйти замуж за мужчину, потерявшего жену. В этом браке, заключенном по расчету, рождается истинная любовь.
**23.35** "Соль" Музыкальное шоу Захара Прилепина.
**0.55** Документальный спецпроект: "Печать судьбы у каждого своя".

## ТВ Мир

**6.00** Мультфильмы.
**6.20** Х/ф **"ЗОЛОТАЯ РЫБКА".**
**8.05** Х/ф **"ПРЕЗИДЕНТ И ЕГО ВНУЧКА".**
**10.00** Новости.
**10.15** Т/с **"ТАМАРКА".**
**14.10** Х/ф **"ПОСЛЕДНИЙ ПРИКАЗ ГЕНЕРАЛА".**
**16.00** Новости.
**16.15** Т/с **"МЕТОД ФРЕЙДА".**
**22.25** Х/ф **"ДОМ НА ОБОЧИНЕ".**
**0.20** Программа "Разоблачение иллюзий".

# кіно

## ТВ3 (Россия)

**6.00, 8.00** Мультфильмы. **7.30** Программа "Школа доктора Комаровского". **8.45** Х/ф **"СЫН МАСКИ". 10.30, 1.45** Х/ф **"МИССИС ДАУТФАЙР". 13.00** Х/ф **"ДЕВЯТЬ МЕСЯЦЕВ". 15.00** Х/ф **"ЧЕРНИЛЬНОЕ СЕРДЦЕ". 17.00** Х/ф **"ДЖЕК - ПОКОРИТЕЛЬ ВЕЛИКАНОВ". 19.00** Х/ф **"ЕСЛИ СВЕКРОВЬ - МОНСТР". 21.00** Х/ф **"ВСЕГДА ГОВОРИ "ДА". 23.00, 0.00, 1.00** Т/с **"ВИКИНГИ". 4.15** Х/ф **"ВЕДЬМЫ".**




**5.10 ГОРОД ГРЕХОВ 2. ЖЕНЩИНА, РАДИ КОТОРОЙ СТОИТ УБИВАТЬ.** США, криминальный триллер, 2014. **07.10 СТРАХОВЩИК.** Болгария, США, Испания, научно-фантастический триллер, 2014. **09.20 БАЛЛИСТИКА. ЭКС ПРОТИВ СИВЕР.** США, триллер, 2002. **11.10 СМЕРТЕЛЬНАЯ БИТВА 2. ИСТРЕБЛЕНИЕ.** США, фантастический боевик, 1997. **13.15 ДЖОНА ХЕКС.** США, фантатический вестерн, 2010. **15.10 1408.** США, фильм ужасов, 2007. **17.10 PREMIERE К-9.** США, комедия, 1989. **19.10 БАНДИТКИ.** Франция, Мексика, комедийный вестерн, 2006. **21.10 ВАН ХЕЛЬСИНГ.** США, Чехия, фантастический триллер, 2004. **23.30 ПОДАРОК.** Австралия, США, триллер, 2015. **01.30 ОПАСНОЕ ПОГРУЖЕНИЕ.** Великобритания, триллер, 2015. **03.20 ПОХИЩЕНИЕ ФРЕДДИ ХАЙНЕКЕНА.** Бельгия, Нидерланды, США, Великобритания, криминал, 2015.

## КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **"ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2". 3.10** Х/ф **"ЛУННАЯ АФЕРА". 5.00** Х/ф **"ИСТОРИЯ ЛЮБВИ, ИЛИ НОВОГОДНИЙ РОЗЫГРЫШ". 6.45** Х/ф **"ОТКРОЙТЕ, ДЕД МОРОЗ". 8.40** Х/ф **"СВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ". 10.30** Х/ф **"ГАЗЕЛИ". 12.20** Х/ф **"РИМСКИЕ СВИДАНИЯ". 14.00** Х/ф **"ЧТО, ЕСЛИ САНТА... СНОВА?". 16.00** Х/ф **"СТРАНА ЧУДЕС". 17.30** Х/ф **"ЛЮБОВЬ С ПЕРВОГО ВЗГЛЯДА". 19.10** Х/ф **"ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ?". 21.20** Х/ф **"НОВЕЙШИЙ ЗАВЕТ". 23.20** Х/ф **"НОВОСТИ С ПЛАНЕТЫ МАРС".**

## Феникс+Кино

**8.00, 16.00, 0.00** Т/с **"ЕВЛАМПИЯ РОМАНОВА 2: СЛЕДСТВИЕ ВЕДЕТ ДИЛЕТАНТ5". 9.00, 10.00, 17.00, 18.00, 1.00, 2.00** Т/с **"КАТИНА ЛЮБОВЬ". 11.00, 12.00, 19.00, 20.00, 3.00** Т/с **"ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 4". 13.00, 21.00** Т/с **"ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. МУРКА". 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **"СЕМЬ ЖЕН ОДНОГО ХОЛОСТЯКА". 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **"ДЕВЯТЬ МЕСЯЦЕВ". 4.00** Т/с **"ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 5". 5.00** Т/с **"ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. НЕУЛОВИМЫЙ".**

## РУССКОЕ КИНО TV1000

**6.20 МОНАХ И БЕС.** Россия, кинопритча, 2016. **08.25 ЛЕГЕНДА №17.** Россия, биографическая драма, 2012. **10.45 КОНЕЦ ПРЕКРАСНОЙ ЭПОХИ.** Россия, драма, комедия, 2015. **12.35 СНЕЖНАЯ КОРОЛЕВА 2. ПЕРЕЗАМОРОЗКА.** Россия, мультфильм, 2014. **14.20 СУПЕРБОБРОВЫ.** Россия, фантастическая комедия, 2016. **16.20 ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ.** Россия, комедия, 2007. **18.20 ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ 2.** Россия, романтическая комедия, 2008. **20.20 ГОЛОСА БОЛЬШОЙ СТРАНЫ.** Россия, мюзикл, 2016. **22.15 ВОЛКОДАВ.** Россия, фэнтези, 2006. **00.45 МАМА ДАРАГАЯ!.** Россия, комедия, 2014. **02.25 ГЕОГРАФ ГЛОБУС ПРОПИЛ.** Россия, драма, 2013. **04.25 ДЕНЬ ВЫБОРОВ 2.** Россия, комедия, 2016.

## TV1000

**8.10 ЕВА. ИСКУССТВЕННЫЙ РАЗУМ** Испания, Франция, фантастигf, 2011. **09.55 ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ.** США, Великобритания, криминал, 2010. **11.50 СЧАСТЛИВЧИК ГИЛМОР.** США, комедия, 1996. **13.30 ГОСПОДИН НИКТО.** Канада, Бельгия, фантастика, 2009. **16.00 ТРУП НЕВЕСТЫ.** Великобритания, США, мультфильм, 2005. **17.25 ГЛАДИАТОР.** Великобритания, США, исторический боевик, 2000. **20.20 ТРУП НЕВЕСТЫ.** Великобритания, США, мультфильм, 2005. **22.25 АВГУСТ.** США, драма, 2013. **00.35 БОЕЦ.** США, спорт, 2010. **02.40 ПРИЗРАКИ БЫВШИХ ПОДРУЖЕК.** США, фантастическая комедия, 2009. **04.20 ОХОТНИКИ НА ТРОЛЛЕЙ.** Норвегия, ужасы, 2010.

## КИНОСЕРИЯ

**0.10** Убийства в Стамбуле. **3.00** Чисто английские убийства. **4.00, 5.00** Валландер 3. **6.00, 7.00, 7.55, 8.45, 9.40, 10.30, 11.25, 12.20, 13.10, 13.55** Крадущийся в ночи. **14.45, 15.50, 16.55, 17.55, 19.00, 20.15, 21.25, 22.25** Безмолвный свидетель. **23.30** Грязные мокрые деньги.

## ВТВ

**6.00, 23.10, 4.00** Скетч-шоу "6 КАДРОВ". **7.00** Скетч-шоу "ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ". **7.30** Т/с **"ЕРАЛАШ". 8.30** Мультфильмы. **9.30** Скетч-шоу "ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!". **10.30** Т/с **"ПАПИНЫ ДОЧКИ". 11.30, 0.50** Программа "ТУРБО МИКСЕР". **12.00** Make-over шоу "УСПЕТЬ ЗА 24 ЧАСА". **13.00** Гастрономическое трэвел-шоу "ВКУСНАЯ ПЛАНЕТА". **13.30** Т/с **"ОТЕЛЬ ЭЛЕОН". 15.00** Х/ф **"МОЙ ПАРЕНЬ - АНГЕЛ". 17.00** Х/ф **"МАЛЕНЬКИЙ ПРИНЦ". 19.00** Юмористическое шоу "УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ" Когда носы в 12 бьют. **21.00** Приключения "**АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС В БРИТАНИИ**". **0.00** ЕВРОПЕЙСКИЙ ПОКЕРНЫЙ ТУРНИР. **4.30** "ЛОВИ МОМЕНТ". **5.00** "ЯСНОВИДЯЩАЯ".

# спорт

## Беларусь 5

**8.00** PRO спорт. Новости. **8.10** "Звуки лета. Вспоминая Евро-2016". **9.05** Питстоп. **9.30** Теннис. Турнир WTA. Сидней. **13.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Гонка преследования. Мужчины. **14.20** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Масстарт. Мужчины. Прямая трансляция. **15.10** Фактор силы. **15.40** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Гонка преследования. Женщины. **16.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Масстарт. Женщины. Прямая трансляция. **17.25** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск - ЦСКА (Москва). Прямая трансляция. **19.15** Теннис. Турнир WTA. Сидней. **21.15** PRO спорт. Новости. **21.25** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Масстарт. Мужчины. **22.20** Биатлон. Кубок мира. Оберхофф. Масстарт. Женщины. **23.15** Теннис. Турнир WTA. Сидней.

## Евроспорт

**3.30, 7.00, 9.30, 20.00, 0.00** Зимние виды спорта. Обзор. **4.30, 6.30** Биатлон. Кубок мира. Женщины. Гонка преследования. **5.00** Прыжки с трамплина. Обзор. **6.00** Биатлон. Кубок мира. Мужчины. Гонка преследования. **8.00** Горные лыжи. Кубок мира. Женщины. Слалом-гигант. **8.45, 15.15** Горные лыжи. Кубок мира. Мужчины. Слалом-гигант. **10.30** Ралли-рейд "Дакар". **11.00** Горные лыжи. Кубок мира. Женщины. Слалом. **12.15** Горные лыжи. Кубок мира. Мужчины. Слалом. **13.30** Лыжные гонки. "Тур де Ски". Женщины. **14.15** Биатлон. Кубок мира. Мужчины. Масс-старт. **16.30, 22.00, 1.30** Биатлон. Кубок мира. **17.15** Лыжные гонки. "Тур де Ски". Мужчины. **18.15** Горные лыжи. Кубок мира. Женщины. Слалом. **19.00** Теннис. ATP. Финал. **21.00, 23.30, 2.30** Лыжные гонки. "Тур де Ски". Мужчины. **23.00** Лыжные гонки. "Тур де Ски". Женщины. **1.00** Ралли-рейд "Дакар". День отдыха.

# хобі і адпачынак

## Драйв

**6.00, 19.35, 3.05** Женевский автосалон. Мировые премьеры. **6.30, 20.00, 3.30** Контраварийная подготовка. **6.45, 20.15, 3.45** На личном опыте. **7.10, 20.40, 4.10** Мототрюки. **7.35, 7.50, 21.05, 21.20, 4.35, 4.50** Дома на колесах. **8.05, 21.35** В поисках идеала. **8.35, 22.05, 5.35** Ретро ралли. **9.00** День выбора. **9.30** Автоюрист. **9.45** Одноклассники. **10.15** Мотошкола. **10.45** Автореанимация. **11.10** Все включено. **11.40** Про тюнинг. **12.05, 16.50, 23.15** Автодрайв 2016. **12.30, 1.35** Мотоэкзотика. **13.00, 5.05** Вторые руки. **13.30, 19.05, 2.35** 9 злобных водителей. **14.00** Кемперы. **14.30** Автомобильная классика с Деннисом Гейджем. **14.50** Реальная дорога. **15.05** ТОП ГИР (сезон 18). **15.55** Гонки. Год за годом. **16.20** Покорители Азии. **17.15** Комплектация. **17.45** История на колесах. **18.15** Тяжелый металл. **18.35, 0.40** Кузовной ремонт. **22.30** Мото тест-драйв. **22.45** Испытание на прочность. **23.40** Проверка на дороге. **23.55** Мото дуэль. **0.10** Испытательный полигон. **1.05** Кроссоверы. **2.00** Тачка с правом передачи.

## Explore

**7.05** Экстремальная наука. **8.10, 8.40, 9.10, 9.40, 10.10** Короли свалки. **10.40, 11.20** Крупная и злая рыба. **12.05, 12.50, 22.15** Уникальные дома из дерева. **13.35** Австралийские золотоискатели. **14.25, 15.10, 23.45** Старатели. **15.55, 16.55, 17.55** Битвы роботов. **18.55** Внутри "Ягуара": машина, которую не купить за деньги. **19.45** Самые опасные дороги мира. **20.45, 21.05, 21.30, 21.50** Дома на воде. **23.00** Ковбои ледяных вод. **0.30, 0.50** Дроны. **1.15** Город полярных медведей.

## History

**7.00** Заговор. **8.15, 9.20, 10.20, 0.00** Российская империя: династия Романовых. **11.20, 12.10, 21.20, 22.10** Американские принцессы на миллион долларов. **13.00, 1.00** Трагическая судьба российских царевен. **14.05** Происхождение современных монархий Европы. **15.00, 15.50** Запретная история. **16.40, 17.40, 18.35, 19.30, 20.25** Мушкетёры. **23.00** Большие ожидания. **2.00** Скрытые угрозы эдвардианской эпохи. **3.00** Скрытые угрозы эпохи Тюдоров. **4.00** Hidden Killers of the Post War Home [rating 18]. **5.00** Загадочные преступления средневековья. **5.45** Мастера шпионажа.

## Nature

**6.15, 6.40, 7.10, 7.35, 8.05, 18.25, 18.50** Самый дикий город Аляски. **8.30, 2.15, 2.40** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **9.00, 9.20, 9.45, 3.05, 3.30** Лучшие друзья собаки. **10.10, 10.40, 11.10, 11.40, 12.10, 12.40, 13.10, 13.40, 14.10, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10** Animal Antics. **16.40** Медоеды - мастера беспорядка. **17.30** Дикая школа. **19.20** Экспедиция в Новую Гвинею. **20.15** Аллея торнадо. **21.00** Летающие чудовища. **21.45** Операция "Дикая природа". **22.50** Новые миры Индии. **23.45, 0.35, 1.25** Супер ветеринар. **3.55, 4.20** Ветеринарные клиники. **4.45, 5.10, 5.35** Национальные парки Канады.

## National Geographic

**6.00, 20.25** Игры разума. **6.45, 7.10, 7.35, 5.35** Научные глупости. **7.55, 13.20** Пути эволюции. **8.40, 14.05** Диномания. **9.30** Тайны древности: Потерянные пирамиды Китая. **10.15, 15.40** Смертельный бой динозавров. **11.00, 16.25** Больше, чем тираннозавр. **11.45, 17.15** Секретные материалы Юрского периода: тайны динозавров. **12.30** Крупнейшие животные всех времен. **14.50** Западня для динозавров. **18.00, 20.50, 2.30** Убить Рейгана. **19.40, 22.20, 4.00** Рейган: Попытка убийства. **23.05, 4.45** Джон Ф. **23.55, 0.45, 1.40** История Бога с Морганом Фрименом.

## Охота и рыбалка

**6.00, 19.45** Рыбалка за рыбалкой. **6.25, 11.30, 20.10, 23.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **6.55** Энциклопедия рыбалки. **7.25, 21.10** Секреты "трудных" водоемов. **7.55, 21.40** Универсальная собака. **8.25, 22.10** Охота и рыбалка с Гарри Льюисом. **8.50** Популярная охота. **9.05, 1.35** Охота и рыбалка в Якутии. **9.35, 2.05** По следам Хемингуэя. **10.05, 2.35** Водоемы России. Рыбинское водохранилище №4. **10.35, 22.35** Энциклопедия охоты. **11.05, 23.05** Августовская охота на косулю. **12.00, 0.00** Нахлыст на разных широтах. **12.30, 0.30** Рыбалка без границ. **13.00, 1.00, 5.35** Водный мир. **13.30** Кухня с Сержем Марковичем. **13.45** Донская рыбалка. **14.10** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **14.40** Сомы Европы. **15.10** Поймано в Африке. **15.35, 4.15** Зимняя рыбалка в Приволжье. **15.50, 4.30** Морская охота. **16.20** Сезон охоты. **16.50** Охота в Северной Америке. **17.10, 18.05, 18.55** На краю земли. **20.40** Рыболовы. **3.05** Карпфишинг. **3.30** Технология зимнего клева. **4.00** Первый лед последний лед. **5.00** Горная охота с Эдуардом Бендерским.

## Усадьба

**6.00, 19.30** Дом вдали от дома. **6.45, 2.35** Русский сад. **7.10, 20.45, 3.00** Сравнительный анализ. **7.35** Зелёный уголок. **7.40, 3.25** Быстрые рецепты. **7.55, 14.50, 21.25** Зелёный штрих. **8.05, 3.55** Календарь дачника. **8.20, 4.10** Проект мечты №118. **8.45, 22.15, 4.40** Цветочный блюз: ботанические сады Северной Америки. **9.15** Дачные радости. **9.45, 1.05** Школа ландшафтного дизайна. **10.10, 1.35** Дизайн своими руками. **10.40, 2.05** Детская мастерская. **10.55, 2.20, 3.40** Лучкипучки. **11.10** Беспокойное хозяйство. **11.40** Лучшие дома Австралии 4 сезон. **12.00, 22.45** Прогулка по саду. **12.30, 23.10** Частный сектор. **13.00, 23.40** Свежий срез. **13.25, 0.05** Мастер-садовод. **13.55, 0.35** Крымские дачи. **14.20** Ландшафтный дизайн. **14.55** Мегабанщики. **15.25** Усадьбы будущего. **15.55** История одной культуры. **16.25** Жизнь в деревне. **16.50** Садовые истории с Оливией Андриако. **17.15** Битва огородов. **17.45** История усадеб. **18.15** Семейный обед. **18.45** Стройплощадка. **19.15** Чужеземцы. **20.15** Альтернативный сад. **21.10** Я садовником родился. **21.35** Вершки корешки. **21.50** Проект мечты №124. **5.05** 10 самых больших ошибок. **5.35** Нью-Йорк на крыше.

## АНОНС "Ты у меня одна"

**Драма, Россия, 1993**

Бывший боксер, а ныне – рядовой инженер, Евгений Тимошин получает возможность изменить свою жизнь к лучшему. Его зовет с собой в Америку молодая, красивая, богатая женщина, которая с детства в него влюблена. Но Тимошин любит свою жену и никогда не мечтал об Америке…

**ОНТ, 12.50**





НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

# "Жыццё працягваецца – гэта найбольш правільны адказ на тэракты"

## Ураджэнка Маладзечна, якая жыве ў Германіі, каментуе тэракт у Берліне

**Тэракт на калядным кірмашы ў цэнтры Берліна, які адбыўся 19 снежня, чарговы раз ускалыхнуў спакой у Еўропе. У выніку 12 чалавек загінулі, 48 пацярпелі.**


Фота забяспечанае Ганнай БАКАНОЎСКАЙ.

Ганна Баканоўская.

Аб тым, як нямецкае грамадства адрэагавала на трагічную падзею, распавядае **Ганна Баканоўская**, маладзечанка, якая жыве ў нямецкім горадзе Карлсруэ.

– Мы жывём на захадзе Германіі, на мяжы з Францыяй. Таму тэракт не закрануў непасрэдна нас. Карлсруэ – невялікі горад, у ім каля 300 тысяч жыхароў, цяжка параўноўваць яго з Берлінам. Але гэта сталіца былой зямлі Бадэн, своеасаблівы мясцовы цэнтр. Таму, з аднаго боку, людзі хвалююцца за бяспеку, а з іншага, супакойваюць сябе тым, што мы правінцыя.

У цэлым, на маю думку, рэакцыя краіны была ці не занадта спакойнай. Мяркую, што падобнага ўжо даўно чакалі і баяліся. Ад пачатку крызісу з уцекачамі вельмі востра паўстала пытанне бяспекі ўнутры краіны. Але спачатку ў пэўнай часткі насельніцтва і палітыкаў быў трохі наіўны погляд на праблему. Разумелі, што яна існуе, але нічога не рабілі, бо не хацелі нагнятаць абстаноўку. Я лічу, што гэта было вялікай памылкай. Цяпер пра гэта пачынаюць казаць буйныя палітыкі з кааліцыі Меркель, але для гэтага спатрэбілася шматлікія чалавечыя ахвяры.

Асаблівых пераменаў ў грамадстве, звязаных з гэтым тэрактам, я не назіраю. Перамены пачаліся раней, разам з крызісам уцекачоў: усё больш людзей не давярае кіраўніцтву Меркель, гэта было бачна ў выніках галасавання на выбарах у зямельныя парламенты. У гэтым сэнсе немцы вельмі адрозніваюцца ад французаў: яны не выходзяць на вуліцы пратэставаць.

Таму і рэакцыя была не такой, як у Францыі пасля тэрактаў у Парыжы або Ніцы. Але была вялікая імша ў саборы на месцы трагедыі, у якой бралі ўдзел палітыкі і вядомыя людзі, былі акцыі салідарнасці ў Берліне. У Карлсруэ таксама была акцыя за талерантнасць.

У горадзе павялічаная колькасць паліцэйскіх. На вакзалах яны патрулююць сумесна з аховай парадку на чыгунцы.

Вядома, тэракт паўплываў на перадкалядны настрой, гэта адчуваеш у размовах з сябрамі і калегамі. Але жыццё працягваецца, людзі купляюць падарункі, крамы поўныя, – як заўсёды перад святамі. Мне падаецца, гэта найбольш правільны адказ на тэракты. Бо тэма тэрактаў – не ахвяры, а страх у грамадстве.

Спадзяюся, кіраўніцтва зробіць правільныя высновы, каб умацаваць бяспеку і прадухіліць далейшую бескантрольную плынь нелегальных эмігрантаў.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com



## Як адбылася трагедыя

**Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, тэракт адбыўся вечарам 19 снежня. Фура ўехала ў натоўп людзей на калядным кірмашы ў Берліне.**

Кіроўца, прабіўшы гандлёвы рад, збег з месца здарэння. З-за сутыкнення загінула 11 чалавек, каля 50 атрымалі раненні. Адказнасць за трагедыю ўзяла на сябе "Ісламская дзяржава".

Адзін з падазраваных быў забіты падчас перастрэлкі з паліцэйскімі ў Італіі.

Журналісты высвятлілі храналогію падзей. Падазраваны ў тэрарызме захапіў фуру польскага кіроўцы Лукаша Урбана. Вядома, што ў момант тэракта ён быў на пасажырскім сядзенні, і быў яшчэ жывы. Эксперты мяркуюць, што ён спрабаваў перашкодзіць злачынцу, у кабіне ёсць сляды барацьбы. Калі б не Лукаш, колькасць ахвяр магла б быць значна большай. Яго знайшлі ў кабіне мёртвым.

У следства ёсць падазраваны. У 2011 годзе ён прыехаў у Італію як бежанец з Туніса. Пры гэтым у Тунісе быў асуджаны на пяць год за разбой. Італія спрабавала яго дэпартаваць, але Туніс адмовіўся прымаць. Летась ён выйшаў на свабоду і прыехаў у Германію, назваўшы сябе бежанцам з Егіпта.

Сёлета ў чэрвені Германія вынесла рашэнне аб яго дэпартацыі, але Туніс адмовіўся прымаць яго як свайго грамадзяніна, і дэпартацыя зацягнулася.

Канцлер ФРГ Ангела Меркель паведаміла: "Будзе гаротна для ўсіх нас, калі пацвердзіцца, што злачынца быў бежанцам… Гэта асабліва прыкра на фоне таго, што многія немцы прысвяцілі сябе дапамозе бежанцам".

**Аддзел інфармацыі.**

# Львоў – горад, дзе ў кавярні вас паб'юць бізуном

**Збіраючыся ў Львоў, я неаднаразова чула папярэджанні ад сваіх знаёмых, што, маўляў, ва Украіне цяпер усё блага: за рускую мову на вуліцах могуць пабіць, гарачай вады там няма ўжо даўно, а ўсіх, хто прыязджае, цягнуць на майдан.**


Ля адной з львоўскіх кавярняў стаіць помнік вынаходніку газавай лямпы. У самой кавярні знаходзіцца цэлая калекцыя газавых лямп, іх тут каля 200.

Ведома, я не верыла, адмахвалася і смяялася. Але калі ў першы дзень прабывання ў Львове нам насустрач па галоўнай вуліцы горада стала рухацца калона танкаў і іншай ваеннай тэхнікі, калі тут жа побач ішлі ваенныя з аўтаматамі, якія выкрыквалі "Слава Украіне!", смяяцца перахацелася.

Гэта потым нам патлумачылі мясцовыя жыхары, што ў гэты дзень краіна святкавала Дзень Узброеных Сіл Украіны, таму на цэнтральнай вуліцы праходзіў вайсковы парад.

Але пра вайну ў горадзе гавораць шмат, маладыя мужчыны ў ваеннай форме трапляюцца сярод мінакоў часта.

А ў астатнім гэты старажытны і велічны горад жыве сваім жыццём, рыхтуецца да Новага года, гасцінна прымае турыстаў і перабояў з гарачай вадой сваім шматлікім гасцям не чыніць.

Таму калі напярэдадні Новага года ў вас вызваліцца некалькі дзён, то вы можаце правесці іх у Львове.

Дабрацца да гэтага месца можна за адну ноч. Па няцотных днях туды ходзіць цягнік Магілёў-Львоў. Білет, калі вы садзіцеся ў плацкарт у Мінску, вам будзе каштаваць 65 рублёў у адзін бок.

Гэты тэкст ні ў якім разе не прэтэндуе на гід па горадзе. Я наўрад ці вам параю наведаць самыя вядомыя львоўскія славутасці або нейкія музеі, якіх тут безліч. Я толькі хачу падзяліцца сваімі асабістымі ўражаннямі. І, калі вы трапіце ў гэты горад, магчыма, успомніце: "О, я пра гэта ў "РГ" чытаў, трэба зайсці", я буду ведаць, што тэкст пісаўся недарма.

Спытайцеся ў любога чалавека, якога сустрэнеце ў Львове, чым адметны гэты горад. Упэўненая, што большая колькасць вашых рэспандэнтаў назаве львоўскі шакалад і каву.

Што датычыцца кавы, то ў Львове ўпэўненыя: яе здабываюць з-пад зямлі. Пра гэта вы даведаецеся ў кавярні "Капальня кавы". Там вам прапануюць апрануць каску і спусціцца ў шахту, дзе ёсць руднік, адкуль шахцёры здабываюць зерне кавы, якое адразу дастаўляецца наверх, мелецца і адразу заварваецца ў кубачак, горнятко, як кажуць ва Украіне.

Знаходзіцца гэта кавярня ў самым цэнтры, так што вы яе не абміняце, бо пах кавы ў любым выпадку прывядзе вас сюды.



У гэтым старым трамвайчыку мясцовыя жыхары і госці горада могуць папіць кавы і пачытаць кніжкі.


У Дзень Узброеных Сіл Украіны па Львове ездзіла ваенная тэхніка.

Да таго часу, пакуль вы пяройдзеце да дэсерту ў выглядзе львоўскага шакаладу, раю зазірнуць ў кавярню "Крыівка". Адрас у яе такі: "Недзе на плошчы "Рынак". Чаму недакладна? Таму, што гэта месца львоўскіх партызанаў. Каб зайсці ў гэту рэстарацыю, трэба ведаць пароль "Слава Украіне" і адказаць на яго: "Героям Слава". Але калі ў вас раптам прызнаюць маскаля, то вам давядзецца пераконваць ахоўнікаў, напрыклад, выкананнем песні на ўкраінскай мове.

Адзінае, што месца гэта цалкам турыстычнае, мясцовыя туды не ходзяць, ды і пароль не мяняецца даўно. Ніякай інтрыгі.

**А вось калі вы жадаеце вострых уражанняў, то раю наведаць "Мазах-кафэ".**

Такая вам скажу кавярня ў духу мазахізму. І афіцыянткі выглядаюць адпаведна. Што трэба ведаць пра гэту кавярню, дык тое, што тут лупцуюць бізуном без папярэджання. Проста падыдзе афіцыянтка і перацягне праз спіну бізуном. Не, у нас такога дакладна нідзе няма.

Але ні ў якім разе не падумайце, што на гэтым цікавыя кавярні ў Львове заканчваюцца. Не, тут куды ні пайдзі, паўсюль легенды, гісторыя, цікавінкі.

А вось майстэрня шакаладу раўнадушным не пакіне нават тых, хто не любіць шакалад. А ёсць такія, хто не любіць шакалад?

Тут, у майстэрні, можна і пакаштаваць гарачы шакалад, і ўбачыць, як з яго гатуецца розная смаката. Гатункаў шакаладу – безліч. Ідэй для падарункаў – яшчэ больш. Шакалад з рознымі дадаткамі, з пажаданнямі, прадказаннямі... Усе ўмовы, каб, як гаварылася ў адным украінскім мульціку, абажрацца і памерці маладым.

А для душы, вядома, трэба пагуляць па цэнтры, падняцца на Высокі Замак, убачыць Лысую Гару. І абавязкова зазірнуць... на могілкі. Лычакаўскія могілкі – гэта вядомае, надзвычай прыгожае і таямнічае месца ў Львове. Тут пахавана шмат вядомых асоб, але помнікі і капліцы, якія вы ўбачыце тут, – гэта асаблівыя творы мастацтва. Уваход на могілкі платны.

Як і павінна быць, пра гэта месца складзена шмат легендаў.

Напрыклад, на магільнай пліце вядомага публіцыста Яраслава Галана, вядомага сваімі заўзятымі антырэлігійнымі сачыненнямі, пасля таго, як пройдзе дождж, выразна праступаюць контуры хрысціянскага крыжа.

Яшчэ адна легенда апавядае пра тое, што некаторыя каменныя статуі плакальшчыц, размешчаныя на магілах, сапраўды плачуць. Аднак заўважыць гэты цуд можна толькі раніцай, пакуль не высахла раса. Тлумачыцца дадзеная метамарфоза тым, што раней скульптары стваралі сістэму непрыкметных жалабкоў у камені, па якіх назапашаная за ноч раса ці дажджавая вада, магла выцякаць з адмыслова прабробленых адтулін у месцы вачэй статуй.

А львоўскія студэнты прыходзяць на Лычакаўскія могілкі за зямлёй з магілы Мікалая Чарнецкага.

**Падчас студэнцкіх сесій магілу гэтага грэка-каталіцкага біскупа даводзіцца падсыпаць некалькі разоў.**

Студэнты вераць, што пакутнік, чые астанкі перапахавалі ў 1960-х гадах, дапаможа паспяхова здаць экзамен, а зямля на яго магіле мае цудадзейную сілу.

У трамваі, праезд у якім, дарэчы, каштуе два грыўны (12 капеек па-нашаму), мне адна дзяўчына сказала, што прыехаць у Львоў і не пабываць у Карпатах, значыць, у Львове і не быць.

Відаць, давядзецца зноў вяртацца туды, бо ў горы я так і не патрапіла.

Таму жадаю вам планаваць свой адпачынак так, каб потым з гонарам прызнавацца: "Я сапраўды быў у Львове!"

Фота аўтара.


Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах

*Заканчэнне. Пачатак у №№49, 50, 51, 52.*

**Апошнім часам гістарычнай праўды раскрываецца шмат, але далёка не ўся. Таму, пакуль ёсць яшчэ жывыя сведкі тых далёкіх і трагічных часоў, трэба, не губляючы часу, запісваць і абнародаваць іх праўдзівыя расповеды пра сталінскія рэпрэсіі і жахі апошняй вайны.**

## Смерць крочыла за кожным вяскоўцам

Пасля апошняй блакады вясной 1944 года ў 13-гадовага Юзюка Дарожкі на галаве з'явіліся сівыя валасы. Пафарбавалі срэбрам валасы хлапчука подыхі непрадказальнай смерці, якая крочыла за ім усю вайну. Вось і ў той раз у апошнюю вясну акупацыі смерць у чарговы раз дыхнула Юзюку у твар.

З Мардасоў партызаны сышлі адразу ж, як толькі немцы пачалі бамбіць вёску. Як пасля казалі, пайшлі на прарыў, і гэта ў іх атрымалася. Вяскоўцы таксама ўсе дружна рушылі ў забалочаны ельнік пад Зачарную. Той лес хаваў ад смерці жыхароў і з іншых вёсак. Праз некалькі дзён стрэлы пачалі ўжо зусім сціхаць, і тады вясковая "разведка" далажыла жыхарам, што немцаў у вёсках няма.

Мардасяне, выбраўшыся з лясной нетры ў вёску, адразу пачалі прыводзіць сябе ў парадак. Не паспелі як след адмыцца ад балотнай рудаўкі, як у вёсцы раптам невядома адкуль з'явіліся паліцаі і немцы.

Юзюк і яго сябра якраз у гэты час пасвілі сваіх кароў за вёскай непадалёку ад лесу. Было вакол усё ціха, ні страляніны, ні бамбёжкі не было чутна. Хлапчукі суцяшалі сябе: можа, ужо вайна скончылася. Але іх разважанні раптам абарвала размова чужынцаў. Не паспелі апамятацца, як з кустоў з'явіліся дзве постаці ў фашысцкай форме, з аўтаматамі.

Словы "Halt, hendehoh" прымусілі хлопцаў падпарадкавацца акупантам і пад дуламі шмайсераў гнаць сваіх рагуль у вёску. Перад Мардасамі, у якіх ужо поўным ходам гаспадарылі фашысты з паліцэйскімі, немцы загадалі хлопцам пакінуць кароў на выгане ў агульным статку. Саміх жа пастушкоў нацысты далучылі да калоны вяскоўцаў, якая ўжо рухалася ў накірунку Хаценчыцаў.

Ад нядобрага прадчування людзі ў калоне былі збянтэжаныя. Дзеці плакалі, абліваючыся горкімі слязьмі, галасілі жанчыны, старыя клялі паліцэйскіх-канваіраў на чым толькі свет стаіць! Каб супакоіць людзей у калоне, паліцэйскія раз-пораз стралялі ў паветра.

Дайшоўшы да Загаранаў, усю людскую калону (больш за сотню чалавек) надвячоркам загналі ў вялікі ток і наглуха зачынілі дзверы. Усе чакалі жахлівага канца. Сцямнела. Людзі пачалі пакрыху супакойвацца. У кожнага з'явілася надзея на выратаванне. Адны спадзяваліся на дапамогу ад партызан, а іншыя маліліся Богу і спадзяваліся толькі на яго літасць. Рана на досвітку дзверы ў ток расчыніліся і паступіў загад паліцэйскага-літоўца ўсім выходзіць і строіцца зноў у калону.

Людзі, уздыхнуўшы з палёгкай, паслухмяна пастроіліся. Немцы і паліцэйскія накіравалі калону у бок Панышоў. У Рабцах калона з мардасянамі далучылася да іншай. Пасля гэту аб'ядназаную калону немцы чамусьці расцягнулі па дарозе на Панышы амаль што на вярсту.

Такая перабудова людзям стала зразумелай пасля таго, як галава калоны ўвайшла ў лес і прагучаў першы выбух. Спрацавала закладзеная міна партызанамі-лунінцамі, якія ішлі на прарыў з блакады. Загінулі на першай міне стары і жанчына з дзіцем. Калона як па камандзе спынілася. Але канваіры, якія ішлі на бяспечнай адлегласці, пад пагрозай расстрэлу прымусілі калону рухацца наперад.

Юзюку пашчасціла, яго як дужага хлопца ўзяў з калоны да сябе ў памагатыя высокі і худы ў бліскучых акулярах немец-сувязіст. Узваліўшы на плечы рукзак з акумулятарамі да радыёстанцыі, юнак увесь шлях, ад Панышоў да Янушкавічаў, прайшоў разам з немцамі. Толькі вось такая непрадбачаная выпадковасць выратавала яго ад магчымай смерці.

А там, на дарозе, раз-пораз гучалі выбухі, ад якіх гінулі ні ў чым не павінныя мірныя жыхары.

**Такім чынам азвярэлыя фашысты скарысталі безабароннае мірнае насельніцтва для размініравання.**

Гэтыя міны закладваліся партызанамі падчас іх прарыву з блакаднага кальца і служылі надзейным прыкрыццём для адыходу атрадаў і брыгад на Палік.

Дзесяткі мірных жыхароў сталі ахвярамі той дарогі смерці. Адны падарваліся на мінах, а іншыя, губляючы прытомнасць ад убачанага, былі расстраляныя карнікамі.





Віктар Шабуневіч (у другім радзе трэці справа) у 1944 годзе пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Скончыў вайну у Берліне, пакінуўшы на рэйхстагу свой подпіс.

## Адпраўка людзей у Германію

У Янушкавічах з калоны былі вылучаныя дужага складу мужчыны, якія былі накіраваны за суседнюю вёску Сліжана на будоўлю абарончых умацаванняў для адступаючай нямецкай арміі. Дзесьці ўдалечыні былі чутныя гарматныя выбухі, набліжаўся час вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў. Але для шматлікіх нашых землякоў гэты час наступіў толькі праз год, і то на чужыне.

Астатак калоны са старымі, жанчынамі і дзецьмі, пераадолеўшы яшчэ сем вёрст пад аховай паліцэйскіх, быў адпраўлены ў Мышыцы. У гэтай вёсачцы немцы арганізавалі нешта падобнае на перавалачную базу па адпраўцы людзей на працу у Германію. Ноч правялі пад адкрытым небам за калючым дротам. Збегчы магчымасці не было ніякай, а на досвітку пачалася адгрузка працаздольных жанчын і дзяцей у грузавікі.

Адразу пасля загрузкі калона аўтамабіляў з вязнямі рушыла на захад. Праязджаючы праз родныя Мардасы, Юзюк са слязьмі на вачах і камяком ў горле ў апошні раз убачыў насцеж расчыненыя дзверы сваёй асірацелай хаты. У Германіі яму даводзілася працаваць па 12 гадзін у суткі за кусок хлеба з мякінай і жменьку пярлоўкі, кашу з якой самі і гатавалі. За вялікую радасць быў кусочак сабачага мяса. Але такая трапеза была вельмі рызыкоўная. За знішчэнне сабакі і ўжыванне яго ў ежу немцы адразу ж расстралялі б на месцы. Але каб выжыць, вымушаны былі рызыкаваць, бо голад не цётка!

## Вярнуўшыся з фашысцкага пекла, аказаліся ў пекле савецкім

На радзіму вярнуўся Іосіф Пятровіч толькі праз паўтара года, восенню 1945-га. Вызвалялі з палону вязняў, сярод якіх быў і мой субяседнік Юзюк Дарожка, англічане, таму і дахаты яны дабіраліся сваім ходам. Савецкае камандаванне ў першую чаргу займалася адпраўкай у Савецкі Саюз тых вязняў, якіх самі вызвалялі, а іншыя для іх быццам бы не існавалі, не лічылі за сваіх. Таму шлях дадому для Іосіфа Пятровіча быў такі доўгі.

Вярнуўшыся з фашысцкага пекла, на Радзіме давялося працаваць не менш, чым на чужыне. На лесадзялянках трэба было даваць непасільную кубатуру і таксама за кавалачак хлеба ды поліўку. Спагады і павагі да тых, хто пабываў у Германіі, нягледзячы нават на тое, што не па сваёй волі, не было ніякай. Малалетнія вязні былі пастаўленыя ў аднолькавыя ўмовы з тымі, хто падчас акупацыі, праяўляючы лаяльнасць да нямецкай улады, добраахвотна з'язджаў на працу ў Германію.

Доўгі час пасля вайны савецкае кіраўніцтва ніяк не магло вызначыцца з афіцыйным статусам для гэтай катэгорыі грамадзян. Іосіф Пятровіч Дарожка, як і ўсе яго вяскоўцы, прайшоўшы праз пекла вайны, толькі нядаўна быў прызнаны малалетнім вязнем.

Пражыўшы тры гады ў фашысцкай блакадзе, людзі не атрымалі статуса блакаднікаў – як ленінградцы. Тры гады працавалі ў тыле ворага (!) на лясное, 400-тысячнае партызанскае войска, а так і не атрымалі статуса працаўнікоў тылу, ордэнаў і медалёў, у адрозненне ад мільёнаў тых, хто працаваў за Уралам.

Але ж мінулая вайна заглянула ў кожны куточак, у кожную хатку і кожную сям'ю шматпакутнай нашай Беларусі.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

КАЛЯНДАР

### У СНЕЖНІ:

**210 гадоў** назад (1806) пабудаваная былая рэзідэнцыя графоў Тышкевічаў у Валожыне. Помнік архітэктуры класіцызму.

**210 гадоў** назад (1806) пачаў працаваць Валожынскі ешыбот – іўдзейская вышэйшая рэлігійная школа па падрыхтоўцы рабінаў.

**200 гадоў** назад (1816) быў пабудаваны касцёл Святога Юзафа ў Валожыне. Помнік архітэктуры класіцызму.

**160 гадоў** назад (1866) у вёсцы Лоск пабудаваная Свята-Георгіеўская царква. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**150 гадоў** назад (1866) у Гародзьках пабудаваная Свята-Пакроўская царква. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**110 гадоў** назад (1906) быў пабудаваны касцёл Маці Божай Ружанцовай у Ракаве. Помнік архітэктуры неаготыкі.

**80 гадоў** назад (1936) пачаў працаваць сырзавод у вёсцы Міхалова.

**115 гадоў** назад (1902) створаная Беларуская рэвалюцыйная грамада, нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку (ад 1903 года – Беларуская сацыялістычная грамада).

**95 гадоў** назад (1922) пачаў выходзіць штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс "Полымя".

**90 гадоў** з пачатку дзейнасці (1927) у Заходняй Беларусі рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі "Змаганне" (дзейнічала да 30 жніўня 1930 года).

### 1 СТУДЗЕНЯ

**50 гадоў** з часу заснавання (1967) выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Броўкі (першапачаткова Галоўная рэдакцыя БелСЭ на правах навукова-даследчага інстытута, у 1980 годзе ператвораная ў выдавецтва імя Броўкі, з 1992 года – выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Броўкі").

**1932 год.** У Смаргоні нарадзіўся Часлаў Цыбоўскі, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргонях ў 1949-1950 гг. Памёр у польскім г. Дзержанюў (Dzierzaniow), дзе і пахаваны (1978 г.).

### 3 СТУДЗЕНЯ

**95 гадоў** назад (1922) пачала функцыянаваць Беларуская кантора Дзяржаўнага банка СССР.

### 5 СТУДЗЕНЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння Кастуся Губарэвіча (Канстанціна Лявонавіча) (1907 – 1987), беларускага драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а
**Т/факс:** (0176) **75-38-41, 76-96-67**
**reklama@rh.by** **www.rh.by**




1 студзеня – Новы год
7 студзеня – Каляды праваслаўныя
8 сакавіка – Дзень жанчын
16 красавіка – Вялікдзень каталіцкі і праваслаўны
25 красавіка – Радаўніца
28 красавіка – дзень нараджэння “РГ”
1 мая – Дзень працы
9 мая – Дзень Перамогі
3 ліпеня – Дзень Незалежнасці
7 лістапада – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі
25 снежня – Каляды каталіцкія

## Студзень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Птц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Птц | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Птц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Птц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Птц | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Птц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Ліпень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Птц | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Птц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Птц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## Кастрычнік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Птц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Птц | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Птц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |



ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Жыццё будзе здзіўляць нас прыемнымі сюрпрызамі

## У год Пеўня кіруйцеся дэвізам: "На Пеўніка спадзявайся, але і сам не рабі промахаў"

**Год 2017 па ўсходнім календары будзе годам Чырвонага Вогненнага Пеўня. 28 студзеня Чырвоная Вогненная Малпачка радасна памахае нам лапкай на развітанне і перадасць правы на кіраванне Пеўню.**

Перамену ўлады мы заўважым не адразу, бо і колер, і стыхія гаспадароў 2016 і 2017 гадоў аднолькавыя. Калі ў пачатку свайго года Пеўнік будзе паводзіць сябе адносна спакойна, азіраючыся і прыбіраючы ўладанні пасля забіяцкай Малпачкі, то ўжо вясной гаспадар разыдзецца, размахаецца яркімі крыламі і пачне здзіўляць нас сваёй непрадказальнасцю і прыемнымі сюрпрызамі.

**Вогненная стыхія і буйны нораў сімвала наступнага года прынясуць нямала нечаканасцяў усім знакам задыяка.**

Галоўнае ў год эксцэнтрычнага Пеўня – ставіцца па-філасофску да любых пераменаў у жыцці. Людзям, якія не прывыклі ленавацца, Пеўнік дапаможа ў пытаннях кар'еры – вас літаральна заваляць выгаднымі і вельмі заманлівымі прапановамі. Але спяшацца ў 2017 годзе не трэба, лепш старанна выбраць сярод усіх прывабных і яркіх адну адзіную, якая стане надзейнай і будзе падыходзіць менавіта вам.

Паколькі Певень любіць заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, то і ад вас ён будзе чакаць падобных праяў незалежнасці – мяняйце імідж, эксперыментуйце, усе змяненні ў знешнасці пойдуць вам на карысць.

Любіць Певень імправізаваць, і ўсім, хто дзейнічае інтуітыўна, гаспадар года абавязкова дапаможа. І калі падчас адпачынку вы не зможаце паляцець на экзатычны курорт, не перажывайце, жыццё здзівіць вас і ў родным горадзе ці вёсцы. Напрыклад, вам патэлефануюць з розыгрышу прызоў еўраопта і скажуць, што выйгралі аўтамабіль. Вы будзеце на сёмым небе ад шчасця. І ўвогуле, адпачынак у наступным годзе можаце не планаваць – гаспадар года сам створыць ўмовы для паўнавартаснага і дзіўнага адпачынку. Вядома, Пеўніку хочацца спакойна расслабіцца ў вёсцы і, прачынаючыся пад кукарэканне сваіх субратоў, папіваць свежае малачко і паклёўваць смачную кашку.

У год Вогненнага Пеўня вітаецца любая інтэлектуальная праца, а ўжо калі яна звязаная з творчасцю, то, як той казаў, вам і карты ў рукі. Прызнанне, поспех, грошы – гэта ўсё само сабой, а калі вы пойдзеце сваёй дарогай і паспрабуеце сябе ў цалкам новай дзейнасці – фартуна разам з Чырвоным Пеўнікам ахінуць вас клопатам і заступніцтвам.

Калі вы ніколі ў жыцці не бралі ў рукі пэндзля, то ў 2017 годзе паспяшайцеся ў краму мастацкіх тавараў – як ведаць, раптам вы сваёй творчасцю перасягнеце Уладзіслава Страмінскага і станеце геніем унізму, ці абыдзеце Малевіча, намаляваўшы, да прыкладу, зялёны круг, і вам праспяваюць дыфірамбы знаўцы абстракцыі.



Фінансавая сітуацыя ў гэты год будзе радаваць стабільнасцю – разбагацець і паляцець на месяц наўрад ці ўдасца, але на хлеб з маслам, ды нават і з ікрой, вы заўсёды заробіце. Бо Пеўнік знойдзе зярнятка або чарвячка ў любым месцы планеты, ды і вам падкажа, дзе знайсці выгадную працу.

Певень з павагай ставіцца да ўсіх знакаў задыяка, сварыцца яму няма сэнсу, а вось калі яшчэ вы народжаны ў яго год, то можаце цалкам расслабіцца – пеўневых баёў за месца пад сонцам не будзе. Вы ўсяго даможацеся без асаблівых высілкаў, ды і Певень прынясе вам у дзюбе шмат смачненькага.

Певень – істота пачуццёвая, адрозніваецца адданасцю і шчырасцю, але не думайце, што ён настолькі прадказальны – з ім будзе вельмі цікава. Асабістае жыццё ў 2017 годзе напоўніцца тысячамі знаёмстваў, адно з якіх абавязкова акажацца лёсавызначальным. Так што калі вы свабодныя, можаце чакаць падарунку ад гарэзлівай птушкі – выбраннік ўжо на палове шляху, і вам застаецца выбраць правільны кірунак і пайсці насустрач свайму шчасцю.

Тым, хто ўжо мае штамп у пашпарце, сумаваць таксама не давядзецца. У год Пеўня вашы родныя будуць здзіўляць вас кожны дзень, асабліва ў гэтых адносінах дасягнуць дзеці.

**Увага! Тым, у каго яшчэ няма наследнікаў, трэба паспяшацца. Бо дзяцей, народжаных у год Пеўня, чакае яркае і дзіўнае жыццё. Многія з іх дасягнуць небывалых поспехаў у палітыцы і дзелавым жыцці, таму хутчэй райцеся са сваёй палавінкай.**

Калі ж вы ў шлюбе ўжо доўгія гады, то вас чакае другі мядовы месяц. Важна толькі здзівіць Пеўніка непрадказальнымі ўчынкамі, і ён зробіць усё, каб ваша палавінка зноў загарэлася да вас пяшчотнымі пачуццямі. І самае важнае, што хочуць сказаць вам зоркі, – будзьце шчырыя і кіруйцеся ў 2017 годзе дэвізам: "На Пеўніка спадзявайся, а сам не рабі промахаў!". Тады вы даб'яцеся ўсяго, чаго захочаце, і зробіце сваё жыццё шчаслівым і вясёлкавым, а праблемам і непрыемнасцям проста не застанецца месца, і яны збягуць ад вас як мага далей.

**Людзі, народжаныя ў год Пеўня**

Станоўчыя рысы характару: прамалінейнасць, лаяльнасць да іншых, працавітасць, прадпрымальнасць, практычнасць і ў той жа час шчодрасць.

Людзі, народжаныя ў год Пеўня, часта надзвычай трапятліва ставяцца да таго, як яны выглядаюць знешне і яшчэ больш да таго, як яны выглядаюць у грамадстве. Яны здаюцца кансерватыўнымі, але могуць гадзінамі стаяць перад люстэркам і красавацца. Нават не міргнуўшы вокам, здольныя выдаткаваць вялізныя сумы на які-небудзь аксесуар для свайго ўбору. Аднак гэта не азначае, што яны не думаюць пра грошы, яны любяць параўноўваць цэны і гатовыя аддаць шмат часу на пошук больш выгаднага варыянту.

Практычна немагчыма прымусіць такіх людзей прыняць рашэнне, калі папярэдне навязаць ім пэўныя ўмовы. Людзі, народжаныя ў гэты год, у стане думаць ясна, яны абапіраюцца на лагічныя высновы і звычайна не прымаюць ціску звонку.

Адмоўныя рысы характару: Пеўні могуць быць эгацэнтрычнымі, празмерна фанатычнымі, сваявольнымі, часам сыходзяць у сябе.

Вельмі важна памятаць і тое, што, калі гэтыя людзі дасягаюць некаторай фінансавай самастойнасці, яны павінны пазбягаць спакусы растраціць назапашаныя зберажэнні хутка і нядбайна – гэта слабы іх бок, і ім трэба вучыцца расходаваць грашовыя сродкі з тым жа педантычным падыходам, які прымяняецца імі ў працы.

Як ні дзіўна, звычайна каханне для гэтых людзей – зусім іншы від адказнасці, выклік лёсу, з якім трэба будзе сустрэцца тварам да твару. Верагодна, у жыцці гэтых людзей будзе шмат любові і раманаў, бо людзі такога тыпу атрымліваюць асалоду ад заляцанняў і заўсёды знаходзяцца ў цэнтры ўвагі з боку процілеглага полу. Тым не менш, народжаныя ў год Пеўня будуць выключна адданыя сваім каханым. А так як такія людзі валодаюць добрым густам і любяць добрыя ўборы, асяроддзе зносін і кампанію, яны будуць у стане стварыць рамантычную атмасферу і акружаць клопатам сваіх каханых. Іншымі словамі, яны могуць, як пусціць пыл у вочы сваёй захапляльнай знешнасцю, так і зразіць сусразмоўцу незвычайнай вастрынёй розуму.

А каб не расчаравацца ў любоўных адносінах, з Пеўнем трэба быць адкрытымі і сумленнымі, хваліць і падзяляць яго энтузіязм, вядома, калі партнёр настроены на доўгія адносіны.

З іншага боку, у выпадку, калі існуючыя адносіны доўжацца вялікі адрэзак часу, шмат у каго, народжаных у год Пеўня, праяўляецца тэндэнцыя да свабоды, часта яны губляюць усякую цікавасць да свайго пастаяннага партнёра і, рана ці позна, рашаюцца на пошук новых адносін. Аднак, і ў доўгатэрміновых адносінах, калі партнёр пастаянна падтрымлівае цікавасць Пеўня, то рана ці позна яго блуканні спыняцца, ён зразумее, што сустрэў менавіта такога чалавека, якога не хоча губляць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

# Наступствы Новага года тут выганяюць потам

МАЛАДЗЕЧНА

**– У нас з сябрамі ёсць традыцыя, – пачынае размову трэнер і адміністратар фітнес-клуба "Тытан" Віталь Салаўёў, – кожны год 31 снежня мы з сябрамі ходзім у трэнажорную залу.**

Напярэдадні Новага года трэнеры фітнес-клуба "Тытан" Віталь Салаўёў, **Настасся Міхнавец, Караліна Лобач і Алег Чвайкоўскі** даюць парады, як Новы год пачаць з карысцю, навагодні стол зрабіць смачным, але не каларыйным, і дзе ўзяць сілы, каб першы дзень новага года пачаць з чыстага ліста.

### Віталь Салаўёў: мы адкрываем залу 1 студзеня і займаемся, займаемся

Калі ёсць у фітнес-клубе сапраўдныя фанаты здаровага ладу жыцця, дык адзін з самых апантаных, бясспрэчна, Віталь Салаўёў.

Ён лічыць, што навагоднія святы яшчэ не нагода прапускаць трэніроўкі.

– Зала будзе працаваць 31 снежня, таму запрашаю ўсіх завяршыць год ударнай трэніроўкай на ўсе групы мышцаў. Год таму мы збіраліся з калегамі, адкрывалі залу 1 студзеня і праводзілі першую трэніроўку.

Што тычыцца наведнікаў, то Віталь лічыць, што першыя падцягнуцца ў залу 2 студзеня.

– Тыя, хто сочыць за фігурай, нават на Новы год не дазваляюць сабе расслабіцца. Таму, калі вы адносіце сябе да іх ліку, калі ласка, у спартыўную залу.

**Першую трэніроўку прапаную пачаць з кардыянагрузак: пабегаць на бегавой дарожцы, пакруціць педалі на велатрэнажоры.**

Трэба, каб з арганізма выйшла ўсё з'едзенае аліўе і ўсё выпітае шампанскае.

Наведнік "Тытана" Іван таксама згодны з гэтым:

– Канешне, 2 студзеня прыйду ў залу. Бо толькі потам можна хутка выгнаць наступствы святаў.

### Настасся і Караліна: маянэз – атрута, лепш налягайце на мандарыны

Дзяўчаты-трэнеры, вядома, заклапочаныя тым, як прыгатаваць святочны стол з карысцю для сябе і смачна для ўсёй сям'і.

– Мне, напрыклад, нават і не хочацца есці нешта тлустае,– кажа Караліна, – у Новы год я лепш з'ем кавалачак торціка, які потым адпрацую ў зале.

– Наш стол таксама складаецца з карысных салатаў з гароднiны, з мяса, але тушанага ці запечанага ў духоўцы, – кажа Настасся Міхнавец.

У адным дзяўчаты згодныя адна з адной, што маянэзу на іх святочным стале не месца.

– Я ўпэўненая, што абсалютна ў любым салаце, – кажа Настасся, – маянэз можна замяніць на абястлушчаны ёгурт. Смак застаецца такім жа, а ні фігуры, ні здароўю шкоды не нанясе.

Што раяць дзяўчаты тым, хто не можа адмовіць сабе ў святочным жыванні? Адмаўляць!

– Задавальненне на хвіліну, а пакуты сумлення і пакуты ў зале надоўга.

### Алег Чвайкоўскі: без трэнера ў новым годзе не абысціся ніяк

Звычайны працоўны дзень у зале правядзе і трэнер Алег Чвайкоўскі.

– Я з задавальненнем бы ў лазню схадзіў. Без розніцы, як апошні дзень года праводзіць, абы з карысцю для здароўя.

Караліна Лобач

Руслан Дунец

Анастасія Міхнавец

Віталь Салаўёў

Алег Чвайкоўскі

Алег усім чытачам "Рэгіянальнай газеты" раіць не расслабляцца да Старога Новага года, а брацца за здароўе ўжо з панядзелка, 2 студзеня.

– Калі прыйдзеце ў "Тытан", то адзін на адзін са сваім здароўем і фігурай дакладна не застаняцеся. У нас багаты выбар трэнераў, таму я раю вызначыцца з тым, якой мэты вы хочаце дасягнуць і расказаць пра гэта нашаму адміністратару, а патрэбнага трэнера ён параіць.

### Руслан Дунец: фінішуй са мной, малышка

Калі вам трэба падбадзёрванне і добры настрой на год наперад, звярніцеся да гаспадара фітнес-клуба "Тытан" **Руслана Дунца.**

– 31 снежня трэніроўка павінна адрознівацца толькі надзвычай добрым настроем і прадчуваннем нечага чароўнага, а таксама думкамі пра перспектыву трэніровак на ўвесь 2017 год.

**– Руслан, тады парада ад суперспецыяліста: якой трэніроўкай пачынаецца раніца 1 студзеня?**

– Я сябе суперспецыялістам не лічу, – смяецца Руслан. – Але на ваша пытанне можна адказаць і ўсур'ёз, і жартам.

**Калі сур'ёзна, на першай трэніроўцы новага года звярніце ўвагу на самую слабую групу мышцаў і пачніце з яе.**

А калі жартаваць, то хай першае практыкаванне будзе называцца: "Фінішуй са мной, малышка".

**– Расшыфруеце?**

– Не, тут паказваць трэба.

P.S. Ад свайго імя, "зоркі з трэнажоркі", дадам, што ў "Тытане" заўсёды сустракаюць і чакаюць сваіх наведнікаў і не пакідаюць іх з трэнажорам адзін на адзін. Не сварацца, калі раптам з нейкіх прычын вы прапусціце заняткі, але на наступны раз дадуць нагрузку ў разы большую. Тут, акрамя заняткаў, ладзяць святы і конкурсы. Тут ганарацца вашымі поспехамі.

Мы не развітваемся з "Тытанам", а працягваем наша сяброўства, а гэта значыць, што ў наступным годзе вас, паважаныя чытачы, чакае новая сустрэча з трэнерамі. І, паверце, вы такога яшчэ не бачылі.

**Наталля ТУР.**






## Ласось пад рысавай шубай

Рэцэпт гарачай стравы да навагодняга стала. Сустрэча Новага года павінна абысціся без курыцы, бо Пеўню вельмі не спадабаецца, калі будуць есці іх суродзічаў. А вось рыба вельмі дарэчы.

*3-4 памідоры, невялікі кабачок, 200 г рэпчатай цыбулі, 100 г масла, 200 г свежых шампіньёнаў, 300 мл малака, 300 г сырога рысу, 600 г філе ласося, соль, чорны перац, куркума на кончыку нажа, арэгана, базілік, мускатны арэх – ¼ частка чайнай лыжкі, 1 сталовая лыжка мукі.*


Фота gotovim-doma.ru

З ласося зніміце скуру і дастаньце косці. Нарэжце філе невялікімі кубікамі, пасаліце, паперчыце, дадайце надзёрты на тарцы кабачок і нарэзаную дробнымі кубікамі цыбулю, усё перамяшайце.

Бляху змажце маслам. Выкладзіце першым слоем нарэзаныя кружочкамі памідоры, пасаліце, пасыпце арэгана і базілікам, зверху пакладзіце слой ласося. Рыбу пасыпце надзёртым на тарцы маслам.

Рыс прамыйце, заліце падсоленым кіпенем, адварыце на працягу пяці хвілін, зліце ваду. Грыбы пакладзіце ў сухую патэльню. Пасля таго, як вадкасць выпарыцца, дадайце 50 г масла, трохі абсмажце, усыпце муку, яшчэ трохі падсмажце. Тонкім струменем, паступова ўліце малако (можна вяршкі), пастаянна памешваючы.

Дадайце рыс, куркуму, мускатны арэх, калі трэба – соль. Атрыманую масу выкладзіце на бляху на рыбны слой. Закрыйце фальгой і пастаўце ў духоўку на 20-30 хвілін.

Пры падачы на стол пасыпце зелянінай і, калі ёсць, ікрой.

**Проста МАРЫЯ.**

### Адказы на крыжаванку з №52.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 4. Каліна. 6. Авіятар. 8. Кракавяк. 9. Ракуцёўшчына. 10. Саладуха. 14. Піраміда. 15. Гідрат. 16. Марэнга. 17. Зеніт. 19. Пенецылін. 20. Ратонда. 25. Калдуны. 26. Велес. 27. Залессе.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Каханне. 2. Гадзіна. 3. Кавасакі. 5. Бегемот. 7. Бандароўна. 11. Пазітрон. 12. Цэзар. 13. Шафран. 14. Паланій. 18. Дамавіна. 19. Пячора. 21. Гелянова. 22. Анубіс. 23. Кватэра. 24. Наводшыбе.

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | 6 | 5 | | | | |
| 1 | 3 | 7 | | | | | | |
| | | | | 7 | 1 | | | |
| 5 | | 9 | | | | | 8 | 2 |
| 3 | | | 8 | | 5 | | | 6 |
| 8 | 6 | | | | | 1 | | 5 |
| | | | 4 | 2 | | | | |
| | | | | | | 7 | 2 | 3 |
| | | | | 3 | 7 | | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Утвараецца выключна пры выпадзенні пераахаладжаных ападкаў пры адмоўнай тэмпературы.
2. "Мая прэлесць".
5. Культурны помнік, які ўзнік дзякуючы забыццю татарамі роднай мовы пасля перасялення на Беларусь і Літву ў 14-15 стагоддзях.
6. Плітку гэтай фірмы ўкладалі ў Маладзечне да рэспубліканскіх дажынак.
10. Прозвішча маладзечанкі, якая стала ініцыятарам і арганізатарам фестывалю для творчай моладзі "Час жыць".
13. У філасофіі гэта адзінкавасць, у IT – гіпатэтычны момант, пасля якога машыны пачнуць удасканальваць сябе самі, а тэхнічны прагрэс з-за хуткасці будзе недаступны для разумення. У фізіцы – стан Сусвету у пачатковы момант Вялікага выбуху, калі панавала бясконцая шчыльнасць і тэмпература рэчыва.
14. На Каляды беларусы пад яго клалі сена, а на яго ставілі 12 страў.
15. Неабсяжная прастора.
17. Хто нічога не робіць, а потым адпачывае.
22. Падарунак ад "Рэгіянальнай газеты", які мы ўручылі пераможцы велаквэсту, прымеркаванага да 21-годдзя газеты.
24. Сукупнасць раслінных і жывёльных арганізмаў, якія жывуць у вадзе і не здольныя супраціўляцца цячэнню.
27. Украінскі дзеяч, гетман, паэт, які нарадзіўся ў Касуце на сучаснай Вілейшчыне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Калі даніну плацяць грашыма ці прадуктамі.
4. Кампанент гідрасферы, які не з'яўляецца часткай Сусветнага акіяна.
7. Калі штосьці месціцца з абодвух бакоў.
8. Рымская багіня світанку, а таксама знакаміты баявы карабель.
9. Архітэктурная каштоўнасць, знішчаная па распараджэнні маладзечанскіх уладаў у другой палове 20 стагоддзя.
11. Колькасць рэчыва, якая ўтрымліваецца ў целе.
12. Прозвішча маладзечанцаў. Ён майстар расслабляючага массажу, а яна фея жаночай прывабнасці.
15. "Я памятаю кожны твой ..., Імгненны позірк, шчырае прызнанне..."
16. Галоўнае ўпрыгажэнне дома на калядныя святы.
18. Парк чаго з'явіўся ў Маладзечне, калі горад быў культурнай сталіцай.
19. Злучэнне розных стыляў.
20. Месца працы Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне.
21. Узгадненне розных і нават супрацьлеглых элементаў, зладжанасць цэлага, што нараджаецца ад спалучэння супрацьлеглых сутнасцяў.
23. Казімір.., беларускі святар і дзеяч, паэт. Жыў на Астравеччыне. Пахаваны ў Вільні на могілках Росы. Дзякуючы яго намаганням беларуская мова гучала ў касцёле.
24. Прозвішча хлопчыка са звышнатуральнымі здольнасцямі і шрамам у выглядзе маланкі на ілбе.
25. Індзеец у Амерыцы, горны народ у Тайвані. А апошняя з Тасманіі, Труганіні, была пахаваная, як хацела, толькі амаль праз сто год пасля смерці.
26. Традыцыйны станок беларускіх жанчын.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

Прэм'ера. "**Свята для Санькі**" (навагодняя камедыя-казка для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава*
4 студзеня – у 17:30
18 студзеня – у 12:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

"**Плачу наперад**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
5 студзеня – у 19:00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
11 студзеня – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях )
19 студзеня – у 19:00

"**Маленькі свет**" (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
21 студзеня – у 17:00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Мерынье, Анатоль Курбскі*
25 студзеня – у 19:00

"**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
31 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*
**Тэлефоны:**
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.

E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by



### ГАРАСКОП 30 СНЕЖНЯ-5 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Вам цяпер шанцуе, вы будзеце надзвычай актыўныя ў грамадскай, палітычнай, адукацыйнай сферы. У далейшым адчуеце паляпшэнне здароўя, удачу ў бізнесе і калектыўнай рабоце. З Новым годам!

**Цялец.** Сустракайце святы, будзьце шчырыя, радуйцеся самі і стварайце пазітыўны настрой іншым. З усімі зімовымі святамі Вас!

**Блізняты.** Энергіі ў вас будзе больш чым дастаткова, і яна не пройдзе ўпустую, а набудзе цалкам рэальную форму, чым у значнай ступені палепшыць ваша становішча. Са святамі!

**Рак.** Вы зможаце дасягнуць такога стану, які прынята называць шчасцем. І гэта не абавязкова павінна быць звязанае з нейкімі матэрыяльнымі ці іншымі вынікамі, з валоданнем чымсьці. Шчасце яно ёсць само па сабе. З Новым годам Вас!

**Леў.** Рыхтуйцеся да Новага года, думайце пра ўсё добрае, і тады яно ўсё так і будзе. З Новым годам Вас!

**Дзева.** Не вырашайце вы самі, хто вінаваты, а хто не. Рабіце вынікі для сябе і не агучвайце іх іншым людзям. З Новым годам!

**Шалі.** Умейце ўзважыць усе "за" і "супраць". І не ідзіце на повадзе эмоцый. З зімовымі святамі Вас!

**Скарпіён.** Чакайце падзей, якія ўзбударажаць ваша ўяўленне і дазволяць дасягнуць больш высокага ўзроўню мыслення і самавыражэння. А яшчэ радуйцеся жыццю і весяліцеся без межаў. З Новым годам!

**Стралец.** Ваша ўвага скіраваная на паляпшэнне свайго фінансавага стану, да пытанняў заробку, работы. Але ўмейце весяліцца і радавацца жыццю. З Новым годам Вас!

**Казярог.** Жывіце сёння, радуйцеся ўсяму таму добраму, што прыносіць кожны дзень, і перастаньце думаць пра праблемы заўтрашняга дня. З Новым годам!

**Вадалей.** Вас чакаюць перамены, і яны могуць дастаткова моцна паўплываць на ваша жыццё абсалютна ў любой сферы. Можна назваць гэты перыяд жыцця карай за грахі і ўзнагароджаннем за заслугі, у залежнасці, чаго ў вас больш. З Новым годам!

**Рыбы.** Эмоцыі будуць зашкальваць, у вашых сілах зрабіць так, каб гэтыя эмоцыі былі станоўчымі. З усімі зімовымі святамі!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 31 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / 0 | | -1 / 0 | | -1 / +1 | | -1 / 0 | |
| | 751 | → 4 | 743 | → 4 | 737 | → 3 | 730 | ↗ 6 |
| Вільня | 0 / 0 | | 0 / 0 | | +1 / +1 | | -1 / +1 | |
| | 759 | → 4 | 751 | → 4 | 744 | ↗ 5 | 735 | ↗ 8 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне
Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с

Усход 9.33
Захад 16.58
Даўжыня дня 7.25

Усход 16.58
Захад 19.35
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -32 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +5 °С у 1980 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,2 мм у 1981 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што нясе новы год кожнаму знаку задыяка: каму можна расслабіцца, а каму, наадварот, прыйдзецца прыкласці шмат намаганняў, каб дасягнуць поспеху.**

### ПРОСТА АНЕКДОТ

Маці пытаецца ў сына:
– Што ты будзеш рабіць, пакуль я буду хадзіць па крамах?
– Буду гуляць з нянькай ці з чыгункай, – адказвае сын. – Залежыць ад таго, што возьме сабе бацька.

***

Памятаю, я ў дзяцінстве так смяяўся, калі воўк у мульціку "Ну, пачакай!" сам сябе фатаграфаваў. Гэта было так дзіўна тады. Хто ж мог падумаць...

***

Як сустрэнеш Новы год, так яго і правядзеш. Напэўна, таму на Новы год усе п'юць.

***

Перад Новым годам:
– Калі ты будзеш слухацца, Дзед Мароз падорыць табе пад'ёмны кран.
– Ура! Значыць, у мяне будуць два пад'ёмныя краны.
– Чаму ж два?
– А другі я знайшоў у сябе пад ложкам.

***

На Новы год так хочацца пажадаць сабе і ўсім, хто побач, чаго-небудзь добрага і светлага. Ну, напрыклад, каб у суседа зверху зламаўся перфаратар.

## Што прыгатаваць, каб Вогненны Певень не закляваў у наступным годзе

**Застаюцца лічаныя хвіліны да таго, як наступіць год Чырвонага Вогненнага Пеўня. Гаспадыням раім грунтоўна падысці да сустрэчы сімвала наступнага года, каб гаспадарлівая птушка не пусціла ў ход сваю дзюбу, а на сям'ю не пасыпаліся праблемы.**




Лепшае рашэнне для аздаблення навагодняга стала – васковы стыль. Для яго падыдуць ільняны абрус і сурвэткі, плеценыя кошыкі, букецікі з пшанічных каласкоў і сухіх палявых кветак.

Для сервіроўкі выкарыстоўвайце гліняны і драўляны посуд, пад гарачае – саламяныя падстаўкі. Калі на вашым стале будуць свечкі, выбірайце чырвонага і жоўтага колераў.

### За суродзічаў Певень адпомсціць

Па традыцыі ў цэнтры стала размяшчаюць страву, якую любіць сімвал года. Сёлета там можа быць плеценая ваза з пшаніцай, грэчкай, рысам альбо іншымі крупамі.

Аднак нават выканаўшы ўсе правілы сервіроўкі, можна раззлаваць Пеўня, калі паставіць на стол стравы з курыцай. Не трэба есці блізкіх сваякоў Пеўніка, бо і з вас можа пасыпацца пер'е.

Фаршыраваныя яйкі, яйкі з маянэзам таксама пад забаронай. У салатах яны дапушчальныя. Можаце замяніць курыныя яйкі на перапяліныя. Яны даражэйшыя, аднак можна ўздыхнуць спакойна, што Певень не раззлуецца.

А вось стравам з садавіны і гародніны ўдзяліце асаблівую ўвагу, яны безумоўна спадабаюцца гаспадарлівай птушцы. Вы пасля святаў не будзеце адчуваць цяжкасць у страўніку.

Гарачыя стравы могуць быць са свініны, рыбы. Шашлыкі таксама не пашкодзяць, бо Певень жа вогненны. Не забудзьцеся на сыр і зеляніну.

Напоі на стале павінны быць яркімі, як сімвал надыходзячага года, таму смела стаўце дамашнія сокі, морсы, кампоты, газіроўку.

**Аддзел інфармацыі.**

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як стварыць навагодні настрой?



**Людміла Бойка, дыспетчар:**
– Паглядзець старыя савецкія фільмы, набыць падарункі родным і сябрам. А яшчэ можна ўспомніць ранейшыя часы і даслаць сваякам, якія жывуць далёка, сапраўдныя папяровыя паштоўкі.



**Андрэй Будай, кіроўца:**
– А ці варта яго ствараць спецыяльна? У мяне заўсёды добры настрой, калі побач сям'я, сябры і ёсць любімая праца.



**Яна Ваўчок, у дэкрэтным адпачынку:**
– Мне святочны настрой стварае дзіця. Сумеснае ўпрыгожванне ёлкі, доўгія роздумы на тэму: а што б такое падарыць. Узаемныя тэлефонныя званкі і віншаванні з надыходзячым таксама радуюць.



**Вадзім Кнорын, вучань:**
– А мне не трэба ствараць святочны настрой, бо ён і так ёсць. Канікулы ж у школе!



**Вольга Лісічонак, гаспадыня:**
– Ідэальна, калі такі настрой стварае прырода: калі снег і мароз невялікі, ветру няма. Таму сёння перадсвяточнага настрою ў мяне няма. Можна паспрабаваць паглядзець навагоднія фільмы, а яшчэ лепш мульцікі.



**Валерыя Шкода, студэнтка:**
– Навагодні настрой стварыла не толькі наша з мужам новая сямейная суполка грамадства, але і сапраўдная ёлка ў кватэры. Па ўсім пакоіззяюць агеньчыкі, а я купіла новыя цацкі для лясной прыгажуні: гірлянды і шарыкі любімых колераў. Муж павесіў на ёлку верхавінку. Святочны настрой створаны!



**Анастасія Швядко, настаўніца музыкі:**
– Я спяваю і танцую ў музычным калектыве і дзетак музыцы і спевам вучу. А што лепш за музыку і танцы стварае святочны настрой? Навагоднія песенькі з дзятвой пачалі вучыць яшчэ за месяц да навагодніх святаў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№53 (1131) 30.12.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1273. Падпісана ў друк у 9.00 29.12.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.